Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 5






20 студзеня 1927 г.

МЕНСК

## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сесіі, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зроблены на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку ў стэнографічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

Менск, 1-я дзярж. друкарня зак. № 1152—300. Галаўлітбел. № 23799.




## 5-ае пасяджэньне Чацьвертай Сэсіі ЦВК 7-га скліканьня.

*20-га студзеня 1927 году.*

Пасяджэньне пачалося а 5-й гадзіне.

*Старшыня—тав. Чарвякоў А. Г.*

Старшыня: Пасяджэньне адчыняецца. У парадку спрэчак па дакладу аб бюджэце слова мае т. Самахвалава.

Тав. Самахвалава: У агульным выніку мы маем у бюджэце дасягненьні ва ўсіх галінах, але ў некаторых мясцох становішча ўсё-ж няважнае. Напрыклад, возьмем сельскія школы. Яны абсталяваны вельмі дрэнна, мала падручнікаў. Бяднейшае насельніцтва ня можа пасылаць сваіх дзяцей у школы, бо яно ня можа ім купіць падручнікаў. Заможны селянін-серадняк падручнік купіць. Такім чынам, выходзіць, што бедняку прыходзіцца сваё дзіця трымаць у хаце.

Або, напрыклад, возьмем нашы больніцы. У кожным раёне ёсьць больніца на 10 ложкаў. Нельга сказаць, каб яны былі абсталяваны вельмі ўжо добра, але галоўнае, што тут адчувае селянін, гэта тое, што ні ў аднэй больніцы няма ложка для парадзіхі. І вось, калі прыяжджаеш у вёску рабіць які-небудзь даклад, дык сялянкі заўсёды задаюць адно пытаньне: чаму бюджэт павялічваецца, школы пашырыліся, больніц павялічылася, а ў раёне няма ні аднаго ложка радзільнага, ні аднаго радзільнага дому. Ня будзем мы гаварыць аб тым, каб зараз зрабіць такі дом на 20 або 30 ложкаў, або хоць на 10 ложкаў, але ў першую чаргу трэба паставіць хоць-бы 4 ложкі, але каб гэта было ў кожным раёне.

Вось што я хацела падкрэсьліць, таму што гэтыя пытаньні вельмі важныя для вёскі, і мне гэтыя пытаньні задаваліся, калі я была ў вёсцы ў часе перавыбарчае кампаніі.

Старшыня: Слова мае т. Нікіфарэнка.

Тав. Нікіфарэнка: У нашым бюджэце, як відаць з дакладу т. Васілевіча, ёсьць дасягненьні. Можна сказаць, што наш бюджэт з кожным годам расьце і расьце. Але ў вёсцы ёсьць толькі адзін недахват—гэта няправільны вучот об'ектаў абкладаньня. Хоць тут і гаварылі, што вучот быў праведзен зусім правільна, але я з гэтым ня згодзен. Мне давялося нядаўна быць у раённай падатковай камісіі, і мы атрымоўвалі столькі скаргаў, што іх проста нельга было выраша́ць. Пры гэтым, калі мы глядзелі, хто падаваў скаргі, дык аказвалася, што гэта былі ўсё беднякі. Яны скардзіліся на тое, што ім улічвалі пабочны заработак. І сапраўды, хто мае такія заработкі? Бядняк. Бядняк мае 2-3 дзесяціны зямлі, ён на прыбытак ад гэтай зямлі пражыць ня можа і прымушаны шукаць сабе заработку.

Мы пільна ладыходзілі да гэтага падліку, бралі весткі з Лесбелу, Райлесу і інш. установ—хто колькі зарабіў. Мы дакладна ўлічвалі ўсе гэтыя пабочныя заработкі і ўпэўніліся, што гэта, галоўным чынам, датычыла беднаты. Падае бядняк заяву і пытае: ці ведаеце вы, што я тое, што зарабіў, аддаў на хлеб, таму што ў мяне хлеба няма.

Хто вызвалены ад падатку? Выходзіць так, што той, хто добра жыве, мае многа быдла, вызваляецца ад харчпадатку. Здараюцца такія выпадкі—і гэта вельмі шкада,—што вызваляецца ад падатку той, хто мог-бы заплаціць. Трэба лічыцца з колькасьцю зямлі, ня лічачы пабочнага заработку.

Адносна школ трэба сказаць, што ў нас школы ёсьць, чаго ня было ў старыя часы, ёсьць народныя дамы. Але школы нашы не адрэмантаваны; нашы раённыя бюджэты мелі мала сродкаў для таго, каб рамантаваць школы. Таксама адчуваецца недахват у дапамогах.

Потым аб сельсаветах. Некаторыя сельсаветы ня маюць сваіх памяшканьняў, напрыклад, як у нас. Сельсавет у нас памяшчаецца ў нардоме і прыходзіцца плаціць па 5 з паловаю руб. у месяц, а то яшчэ пагражаюць, што і туды ня пусьцяць. На пленарным пасяджэньні дакладчык гаварыў аб тым, што трэба будзе пабудаваць дом для сельсавету. Аб гэтым сапраўды трэба падумаць, бо прыходзіцца кожны месяц плаціць 4—5 з паловаю руб.; апрача таго, самі апальваюць, і гэта абыходзіцца сельсавету надзвычайна дорага.

Цяпер неабходна паставіць пытаньне аб зямляўпарадкаваньні. Неабходна гэтае пытаньне ўрэгуляваць. У некаторых маюцца купчыя, трэба было-б як-небудзь урэгуляваць з купчымі для таго, каб было лёгка падысьці да об'ектаў аблажэньня, а то лёгка ўвільваць ад аблажэньня. Тут гаварылі, як, напрыклад, таварыш Козыраў, што сельскагаспадарчы падатак вялікі. Я павінен сказаць, што гэты падатак не вялікі і з кожным годам зьмяншаецца, а гаспадарка наша расьце. Трэба правільна толькі падлічыць об'екты абкладаньня, і падатак будзе нявысокі.

Тав. Д а й н э к а: Я тут дакрануся бюджэту ў стасунку да народнае асьветы. Тав. Васілевіч паказаў на той рост выдаткаў, які мы маем у бюджэце на народную асьвету за апошні год. Калі ўзяць 1925-26 г., дык па бюджэце на народную асьвету ішло 14.814.592 р.; у 1926-27 годзе мы маем 19.051.800 р. Павялічэньне значнае. Народная асьвета займае амаль што ⅓ частку агульнага бюджэту. Але, ня гледзячы на такое значнае павялічэньне, значны рост бюджэту па лініі народнае асьветы, яно яшчэ не задавальняе ў патрэбнай ступені тыя патрэбы, якія мы маем у гэтай галіне ў сучасны момант. Я не хачу тут быць вузкім ведамсьцьвеньнікам, але, разам з гэтым, калі мы гаворым аб павялічэньні, умацаваньні нашай гаспадаркі, аб умацаваньні нашай прамысловасьці, дык мы павінны сказаць і аб росьце бюджэту па лініі народнае асьветы. Гэты рост мае вялікае значэньне ў росьце тых соцыялістычных накапленьняў у нашым соцыялістычным будаўніцтве, якое мы праводзім у сучасны момант.

Возьмем конкрэтна 1926-27 г.,—што мы маем? У пачатку гэтага году амаль ад усіх акруговых аддзелаў народнае асьветы ў Наркамасьветы паступілі заявы аб тым, што ў нашых 7-годках наогул, асабліва ў раённых, ёсьць вялікі наплыў з боку дзяцей сялянства, якія скончылі 4-гадовую вясковую школу. Такіх дзяцей, якія скончылі вясковыя школы, мы не маглі поўнасьцю забясьпечыць паступленьнем у школы ў многіх акругах, напрыклад, у Магілеўскай акрузе. Дзякуючы такому вялікаму націску з боку сялянства на акруговыя аддзелы, яны прымушаны былі адчыніць паралельныя клясы выключна для дзяцей сялянства, на ўтрыманьні гэтага сялянства. Гэта гаворыць аб тым, якое значэньне мае бюджэт па лініі народнае асьветы і якое месца ён павінен займаць у агульным нашым бюджэце. Праўда, калі мы возьмем соцыяльную клясу ў нашых 7-годках, асабліва ў раёнах, дык мы маем большы процант

сялян, але калі мы добра паглядзім на соцыяльны склад вучняў, дык убачым, што дзяцей бедняты мала, большасьць складаюць дзеці заможнага сялянства, таму што бедната яшчэ ня можа пасылаць сваіх дзяцей, таму што нашы 7-годкі, асабліва раённыя, да гэтага часу маюць мала інтэрнату. У гэтым годзе Наркамасьветы гэтае пытаньне было закранута перад бюджэтнай камісіяй Наркамфіну і ў Саўнаркоме, і на гэтую справу было адпушчана 60.000 р., якімі толькі часткова пры некаторых раённых 7-годках, прыблізна, на 50 проц. можам задаволіць агульным памяшканьнем для дзяцей бедняты.

Цяпер, калі мне прыходзіцца праводзіць кампанію па перавыбарах сельсаветаў па Барысаўскай акрузе, калі прыходзілася ставіць даклад на сходах, дык, як вядома, галоўным пытаньнем было пытаньне аб народнай асьвеце. У тых выступленьнях, якія былі па дакладзе, адначасна з пытаньнямі зямлябудаўніцтва, мэліорацыі, лясных спраў, галоўнае, на чым спынялася сялянства,—гэта нашы школы і нашы больніцы. Падкрэсьлівалася, што тая школьная сетка, якая маецца, далёка не забесьпячае магчымасьці сялянскім дзецям атрымаць патрэбную асьвету ў нашых 4-гадовых вясковых школах. Мы маем яшчэ ў нашых школах абводах у некаторых мясцох радыусы ад 5 да 7 вёрст, і пры такім становішчы дзеці сялян не заўсёды могуць, пры ўсім сваім жаданьні, атрымаць асьвету.

Калі гаварыць аб школьных будынках, дык усё-ж значная частка школ сваіх будынкаў ня мае—да 50 проц. Усё гэта гаворыць аб тым, якую ўвагу ў агульным бюджэце павінна заняць народная асьвета. Праўда, у раённых школах можна адзначыць некаторае палепшаньне ў матар'яльным становішчы адносна правядзеньня рамонту і г. д. Калі тут гаварыў тав. Прэфэрансаў адносна забясьпекі школ літаратурай, дык ясна, што ў сямігодках справа стаіць лепей, тут мы маем больш-менш новую літаратуру. Нават калі паглядзім на 4-гадовыя школы, дык там аб забясьпецы патрэбнымі падручнікамі поўнасьцю ня прыходзіцца гаварыць, а што тычыцца літаратуры, дык яе зусім няма. Гэта зьява зусім ненормальная. Усё-ткі яны павінны быць больш забясьпечаны хаця-б невялікай бібліотэкай новай літаратуры. У 4-годках зусім яе няма.

Цяпер я хачу спыніцца на адным момансе. Калі мы гаворым аб сямігодках, мы павінны адзначыць адзін вялікі недахват,—гэта тое, што нашы школы не забясьпечаны пісьмовымі прыладамі. Прыходзіцца наглядаць такі факт, што значная частка вучняў ня можа прыняць удзелу ў пісьмовых працах з прычыны таго, што ня мае сшыткаў і алоўкаў. На гэта неабходна зьвярнуць увагу пры складаньні бюджэту. Сялянства прызвычаілася так думаць, што яго дзеці павінны быць забясьпечаны таксама і пісьмовымі прыладамі, і ў той час, калі мы рашуча ставім пытаньне перад асьветай аб барацьбе з прагуламі, мы бачым, што гэты момант незабясьпечаньня нашых школ пісьмовымі прыладамі зьяўляецца вялікім прагулам. Гэта значна адбіваецца на працы школы; адгэтуль і другагоднікі, адгэтуль і тая няпісьменнасьць, якая ўсё-ткі маецца ў некаторых нашых школах. Ненормальна, калі дзеці пішуць на кавалачках паперы. Тут, зразумела, патрэбны грошы невялікія, але селянін прывык, каб у школе яго дзеці атрымоўвалі сшыткі, алоўкі і г. д. Дзеля гэтага пры складаньні бюджэту—я лічу—гэты момант неабходна мець на ўвазе і высьветліць.

З прычыны ўсяго гэтага, я лічу, што бязумоўна, пры складаньні бюджэту, іменна пры складаньні бюджэту народнае асьветы, трэба лічыцца з гэтым момантам, гэтымі запатрабаваньнямі і разглядаць бюджэт на народную асьвету ні ў плоскасьці памяншэньня, а павялічэньня;

бо калі мы гэты момант, які ў нас зьяўляецца вынікам недахвату бюджэту, ня зьнішчым, дык пры ўсім жаданьні наш 10-гадовы плян народнае асьветы ў вельмі нязначным стопні будзе праведзены ў жыцьцё.

Цяпер я хачу спыніцца на тым, што зачапіў тут тав. Браўковіч у сваім выступленьні—аб бессыстэмнасьці Наркамасьветы ў справе нашых курсаў па перападгатоўцы. Таварышы, я павінен сказаць, што ў сучасны момант, дзякуючы пашырэньню школьнае сеткі, мы ня маем магчымасьці забясьпечыць яе неабходнымі школьнымі працаўнікамі і, дзякуючы гэтаму, прыходзіцца дапушчаць тых асоб, якія ня маюць патрэбнае асьветы. Ясна, што, калі нашы тэхнікумы дадуць добра падрыхтаваных настаўнікаў, гэтага ня будзе. Але цяпер тэхнікумы ня могуць задаволіць школьную сетку, і, дзякуючы гэтаму, Наркамасьветы змушаны праводзіць гэтыя кароткатэрміновыя курсы, на якіх нашы настаўнікі, што ня маюць патрэбнай пэдагогічнай падрыхтоўкі, могуць набыць некаторыя пэдагогічныя веды і знаёмяцца з тым мэтодам навучаньня, які праводзіцца цяпер у нашых школах. Ясна, што калі нашы школы будуць забясьпечаны больш падрыхтаванымі настаўнікамі, тады мы здолеем абмежавацца тымі конфэрэнцыямі, на якіх будзем абменьвацца поглядамі на працу, якая праводзіцца ў школах. Сучаснае становішча ў школах часовае; Наркамасьветы так і лічыць. Праз кароткатэрміновыя курсы мы не праводзім усіх настаўнікаў, але толькі тых, якія ня маюць пэдагогічнае падрыхтоўкі. У першыя гады на гэтыя курсы накіроўвалі настаўнікаў больш кваліфікаваных, якія набылі некаторую падрыхтоўку. Цяпер-жа Наркамасьветы з гэтага году ўзяў напрамак на тое, каб настаўніцтва—менш моцнае—атрымала патрэбную падрыхтоўку. Тав. Браўковіч гаворыць аб самападрыхтоўцы настаўнікаў. Цяпер Наркамасьветы стаў на гэты пункт погляду, і праведзена палажэньне аб пэдтэхнікумах на даму, і настаўніцтва з будучага году будзе мець магчымасьць да некаторай ступені падрыхтавацца, атрымаць патрэбную падрыхтоўку для таго, каб мець магчымасьць працаваць у нашых школах.

Тут тав. Дубіна закрануў адно пытаньне, на якім я таксама хачу спыніцца. Я правёў працу ў дзьвюх акругах і не магу ня спыніцца на нашым сельска-гаспадарчым падатку. Трэба сказаць, што сялянства ня выказваецца супраць гэтага падатку. Сялянства прызнае гэты падатак упоўне магчымым для сябе. Я хачу адказаць, што ёсьць асобныя выпадкі,—а іх іншы раз вельмі многа,—калі сельска-гаспадарчы і прыбытковы падатак накладаецца на незаможныя гаспадаркі. Тут тав. Дубіна паказваў, што абкладаюцца падаткам тыя гаспадаркі, з якіх узяць няма чаго. Я гэта таксама магу пацьвердзіць. Я ведаю прыклады, што абкладаюцца гаспадаркі падаткам у 20 руб., тымчасам калі з гэтых гаспадарак няма чаго ўзяць. У той-жа час ёсьць гаспадаркі заможныя, якія маглі-б плаціць падатак. Многа серадняцкіх гаспадарак вызвалена ад абкладаньня дзякуючы таму, што ў іх у сям'і ёсьць рабочыя, і гэтак далей. Я лічу, што гэты момант трэба ўзяць пад увагу таму, што гэта няправільнае разьмеркаваньне падаткаў адбіваецца на незаможных гаспадарках.

Старшыня: Слова мае тав. Чэкалаў.

Тав. Чэкалаў: Гаварыць аб усім бюджэце ўцалку ня прыходзіцца. Можна толькі адзначыць, што ў нас бюджэт ў гэтым годзе вырас. Калі прыходзіцца працаваць у раёнах, дык прыходзіцца сустракацца з многімі хібамі. Сельская гаспадарка расьце, сяляне пераходзяць на многапольле і зямляўпарадкаваньне. Павялічаецца продукцыя, асабліва бульбы. Мне здаецца, што пры такіх умовах трэба зьвяртаць увагу на прамысловасьць. Трэба, поруч з будаўніцтвам новых заводаў,

прывесьці ў парадак старыя заводы, якія да гэтага часу стаяць. Так, напрыклад, у нас, у Талочыне, мы маем адзін дражджовы завод, які стаіць і ня прыносіць ніякае карысьці. У сялянстве ёсьць вялікая лішка бульбы, і сялянства ня ведае, куды яе дзець, таму што крухмальня, якая ў нас ёсьць, ня можа выкарыстаць усяе бульбы, што маецца ў сялянства. Па нашых падліках у сялянства застаецца амаль 150.000 пудоў бульбы, якую трэба куды-небудзь збыць. На гэта трэба зьвярнуць увагу. З разьвіцьцём сельскае гаспадаркі мы павінны разьвіваць нашу прамысловасьць.

Цяпер другі момант, які датычыць раённага бюджэту. Пры складаньні бюджэту мы ня ўлічылі аднаго моманту. Мы ня ўлічылі таго моманту, што ў нас можа павялічыцца процант на апал. Мы гэта маем цяпер. Мы бачым, што ў гэтым годзе мы маем павялічэньне дрэва на апал на 250 проц., а ў некаторых выпадках і больш. Мы таксама ня ўлічылі патрэбы ў лесе на сельска-гаспадарчыя прылады. Мне здаецца, што ў далейшым пры складаньні бюджэту ўсе гэтыя моманты павінны быць улічаны. Раней мы плацілі па 7½ р. за сажань дроў, а цяпер 23 р. Такім парадкам у нас зьяўляюцца недахваты. З другога боку, у лесе на будаўніцтва ў мястэчку, а таксама і ў раёне мы будзем мець вялікі недахват. Нам адпускаюць лес па павялічаных цэнах не па таксе 1924 году, а па таксе 1926-27 году. Гэта трэба прыняць пад увагу. Трэба адпускаць па таксе 1924 г. У праціўным выпадку, у нас будаўніцтва ня будзе. Нам, напрыклад, адпусьцілі 3.000 руб. на пабудову аднае тыповае школы. Мы падлічылі, што гэтыя грошы пойдуць на матар'ялы для аднае школы, калі яны нам будуць адпушчаны па льготных цэнах, а калі па таксе, дык грошай ня хопіць. Сэсія павінна гэтае пытаньне разглядзець і пастанавіць, каб лес адпускаўся па адпаведнай таксе. Калі мы былі на прошлай Сэсіі, мы гаварылі аб нашых сельсаветах. У сельсаветах няма стоража, які-б прыбіраў памяшканьне, і часта старшыні сельсавету прыходзіцца падмятаць хату, а часам і мыць падлогу, бо па каштарысу стоража ў сельсавеце не палагаецца.

Цяпер аб добраўпарадкаваньні мястэчак. На добраўпарадкаваньне адпушчаны сродкі, але іх адпушчана мала. Да гэтае пары мы маем у мястэчках зруйнаваныя масты. Дзякуючы гэтаму, бываюць вялікія нездавальненьні з боку насельніцтва. Мне здаецца, што комунальная гаспадарка павінна гэтаю справаю заняцца, бо калі гэтая работа ня будзе праведзена цяпер, дык яна ня будзе праведзена і ў далейшым. Вось усе пытаньні, на якіх я хацеў спыніцца, вось тыя пытаньні, якія трэба будзе абгаварыць у камісіі.

Старшыня: Слова мае т. Анішчанка.

Тав. Анішчанка: Я раней усяго хачу заўважыць Прэзыдыуму, што я запісалася першаю, а выказвацца мне прыходзіцца 20-ю (сьмех).

Па крайняй меры я заўважыла, што Чэкалаў значна пазьней мяне падаў, а тут ён выступіў раней.

Учора, калі яшчэ гаварылі па дакладу т. Адамовіча, дык там большай часткай хваліліся нашымі дасягненьнямі ў жыцьці, а вось сёньня ўжо ня так хваляцца, больш паказваюць на недахваты.

(Чарвякоў: Таму што грошы дзеляць) (сьмех).

Але я лічу, што ў нас недахватаў больш, чым дасягненьняў, і дасягненьняў у нас ня так ўжо і многа, а паколькі ў нас ёсьць дасягненьні, дык растуць і патрэбнасьці значна шпарчэй.

Тав Еўменаў учора гаварыў аб яўрэйскай школе, што недахватаў у яўрэйскіх школах няма. Гэта праўда, бо калі мы возьмем

процант пісьменных яўрэяў і процант пісьменных расійцаў, дык яўрэяў пісьменных больш, чым пісьменных расійцаў.

(Чарвякоў з месца: А наогул на ўсіх не хапае).

Вось я, напрыклад, вазьму наступны факт. У нас ёсьць адна школа сямігодка ў Дуброўне. Вялікая сямігодка і вучняў шмат. Але я ня ведаю, чым гэта можна тлумачыць, што сялянскім дзецям было асабліва дрэнна ў гэтай школе, і бацьком гэтых дзяцей прыходзілася па некалькі разоў хадзіць і прасіць, каб прынялі іх дзяцей. Затым, у школе падзялілі дзяцей на дзьве групы: адна група паралельная, адна група асноўная; сялянскія дзеці папалі, здаецца, у паралельную (цяпер ужо добра ня памятую). Вось дзеці крыху павучыліся, потым аказалася, што няма сродкаў дзеля таго, каб плаціць настаўніку: склікалі сход, і самі грамадзяне парашылі ўжо за свой кошт плаціць настаўніку і зрабілі самааблажэньне. На некаторых вышла па рублю і больш—да 5 руб. Так дзеці вучыліся да 1927 г., і вось цяпер за гэты месяц настаўніку не заплацілі,—ня ведаю ўжо чаму, можа ў іх грошай не хапіла і забралі ўсіх дзяцей і паслалі назад у двор (у вёску).

Цяпер раскажу аб лясох. Тав. Васілевіч учора толькі крыху дакрануўся гэтага пытаньня і сказаў, што лясы трэба выкарыстоўваць у далейшым па меры таго, як яны адрастаюць, але я думаю, што усё-такі трэба было-б іх выкарыстаць больш, чым яны прырастаюць, таму што ў нас сялянству не хапае дроў, і ад гэтага адбываюцца вялікія самавольныя парубкі, з якімі лясьнікі не пасьпяваюць спраўляцца, а пасьля гэтага на грамадзян за парубкі накладваюць штраф. Ёсьць шмат выпадкаў, калі селяніну трэба плаціць да 70 р. штрафу. Ня ведаю, куды ўжо гэтыя грошы ад штрафу ідуць,—ці ў лясны прыбытак, ці ў іншае месца, але гэтыя штрафы выходзяць вельмі вялікія, і ў нас, напрыклад, толькі ў аднэй вёсцы ўзыскалі гэтага прыбытку 300 р. (сьмех).

Ня ведаю, можа гэта для вас невялікая сума, калі вы сьмеяцеся, бо калі ў горадзе лічаць на рублі, то на вёсцы ў нас лічаць на капейкі, і дзеля гэтага на вёсцы 70 р. штрафу гэта—аграмадная сума. Дзеля гэтага і мой пагляд, і грамадзяне мне далі такі наказ, што трэба адпусьціць лесу па магчымасьці больш, каб селянін меў хоць-бы апал, а то адпускаюць селяніну на двор адзін куб. мэтр дроў. Скажэце, калі ласка, на колькі яму хопіць гэтага мэтру і што яму прыходзіцца рабіць пасьля таго, як ён гэты мэтр спаліць? Ясна, што потым павінен ісьці ў лес і рабіць сваявольныя пасечкі, таму што яго становішча надзвычайна дрэннае.

Я лічу, што трэба было-б на кожны двор даць хоць-бы адзін кубічны сажань. Калі ў нас, у Воршы і на мясцох, бываюць пленарныя сходы, дык на іх таварышы кажуць, што ў нас лес высечаны на 10 год уперад і, значыцца, лес трэба сьцерагчы. Выходзіць, такім чынам, што цяпер лес берагуць таму, што, магчыма, цераз 20 год ён нам будзе патрэбны, і вось дзеля гэтага нам цяпер прыходзіцца быць нібы як-бы ня еўшы—гэтак сама і бяз дроў. Напрыклад, далі мне на тыдзень адну чвэрць хлеба, а я для таго, каб усё-ж такі як-небудзь праіснаваць буду гэта есьці не адзін тыдзень, а два тыдні. Так выходзіць і з лесам, а трэба-б зрабіць іначай. Хто яго ведае, што будзе цераз 10-20 год (сьмех).

Голад прымусіць тады можа і торф капаць і што-небудзь іншае рабіць. Аднак сягоньня трэба было-б задаволіць сялян, каб можна было як-небудзь жыць. Я не кажу, што трэба лес адразу высечы, але я стаўлю пытаньне, што нельга-ж адным куб. мэтрам дроў пражыць

цэлы год. Гэта выклікае вялікія высечкі, а пасьля суд: міліцыю заграмаджаюць паперкамі, і атрымоўваюцца немагчымыя рэчы.

Цяпер адносна падчысткі ў лесе. У нас гэта справа не ўпарадкавана, і калі хочаш гэта зрабіць, дык трэба зьвяртацца да вышэйшай улады. Робяць такую падчыстку ў лясох: зьбіраюць дробязь розную, гальлё таўшчынёю да 2-хвяршкоў. А вось, напрыклад, у лесе ляжыць мёртвае дзерава таўшчынёю ў 9-20 вярш., але ты яго ня маеш права браць, і гэтае дзерава застаецца гніць у лесе. Тут проста нешта не прадугледжана і ў далейшым гэта трэба ўсё ўмеркаваць.

Старшыня: Слова мае тав Гнілякевіч.

Тав. Гнілякевіч: Няма ніякай няпэўнасьці ў тым, што ў пабудаваньні бюджэту ёсьць многа вялікіх дасягненьняў. Калі прачытаць стэнограму 3-яй Сэсіі ЦВК і тыя пастановы, якія 3-я Сэсія вынесла па дакладу Наркамфіну, то мы ўбачым, што амаль поўнасьцю ўсе пастановы Сэсіі, якія датыкаюцца бюджэту, выкананы.

Цяпер мы паглядзімо, якое месца аддаецца ў бюджэце прамысловасьці. Тут некаторыя таварышы, галоўным чынам, сяляне гаварылі, што мала дана для сельскай гаспадаркі і вельмі многа—на прамысловасьць. Мы ўсе добра ведаем, што калі наша прамысловасьць будзе аднаўляцца, то гэтым самым будзе адначасна разьвівацца і ўзмацняцца сельская гаспадарка, а з гэтай прычыны гаварыць аб тым, што ў нас мала сродкаў адпушчана на сельскую гаспадарку, ня прыходзіцца.

За апошні час мы наглядаем такую зьяву, што сялянства, якое мае свой продукт, які выпрацоўвае у сябе—бульбу і іншае збожжа, ня можа яго збыць на бліжэйшым рынку, а таму трэба пабудаваць сетку крухмальных заводаў, на якіх магло-б сялянства збываць свае продукты, а разам з гэтым паляпшалася-б і сельская гаспадарка.

Далей, у бюджэце 1926-27 г. мы маем значна большы процант прыбытковасьці па непадатковых галінах. Гэта зьяўляецца вялізным дасягненьнем. Праўда, у гэтым годзе лясная гаспадарка дала вялікі процант прыбытку ў наш бюджэт, таксама і наша прамысловасьць дала вялікі прыбытак. У далейшым нам прыдзецца зьвярнуць яшчэ больш увагі, чым у мінулым годзе, на прамысловасьць і на лясную гаспадаркі. Калі мы маем у Беларусі сырцовую базу, а можна сказаць, што асноўная сырцовая база ў нас—лес, дык мы павінны паглядзець, каб лес ня толькі паступова культываваўся, але каб можна было весьці насаджэньне новага лесу. У гэтым годзе мы маем яшчэ адну лічбу ў бюджэце на лесакультуру, лесаразьвядзеньне, але ўсё-ткі большую, чым у мінулым годзе. У наступным бюджэтным годзе трэба будзе на гэта пытаньне зьвярнуць яшчэ больш увагі.

Тут некаторыя таварышы гаварылі аб тым, што недахватна лесу адпускаецца мясцоваму насельніцтву. Калі лічыць па чвэртцы сажня на адзін сялянскі двор, дык гэта складзе вялізную суму лесу. Я думаю, што нам трэба будзе не захапляцца распрацоўкай лесу, а трэба будзе заняцца распрацоўкай торфу. Гэтым продуктам Беларусь вельмі багата, трэба будзе зьвярнуць на гэта пытаньне больш увага. На апошнім пленуме УсеЦСПС па дакладу ВСНГ была на гэта зьвернута ўвага. Пленум па дакладу ВСНГ сказаў, што трэба будзе заняцца ня толькі распрацоўкай торфу, але заняцца тым, каб як-небудзь сконцэнтраваць гэта ў сваіх руках, або ўзяць кіраўніцтва па распрацоўцы торфу. Калі мы аддамо гэтаму пытаньню досыць увагі, дык гэтым самым адцягнем вялікі попыт, які ў нас ёсьць на лес.

Мы ведаем, што ў Беларусі за некалькі год ужо шмат высечана лесу, а таму з кожным годам паступова ўсё будзе зьмяншацца і

зьмяншацца прыбытковасьць ад лесу. Праўда, нам трэба будзе яшчэ заняцца пытаньнем аб тым, каб правесьці падчыстку лесу, гэта таксама будзе каштаваць добрую суму грошай. У нас яшчэ ў лясох, асабліва ў далёкіх мясцох ад чыгунак і сплаўных рэк, ёсьць шмат павалу, добрага лесу, таму неабходна зрабіць выбарку з іх. Мы можам узяць адтуль вялікія сродкі, але вялікая адлегласьць ад чыгунак і ад сплаўных рэк не дазваляюць заняцца яшчэ распрацоўкай у гэтых мясцох лясных масываў.

Далей, памойму, правільна выдзелена месца соцыяльна-культурным пытаньням. Калі ўзяць па мясцовым бюджэце, дык мы ўбачым, што на соцыяльна-культурныя патрэбы выдзелена 60,1 проц., у раёнах нават больш—66,4 проц. Гаспадарча-вытворчыя мэты ў акругах—30,2 проц., у раёнах—24,7 проц. Нам трэба будзе ў наступным бюджэтным годзе заняцца гэтымі пытаньнямі, асабліва на гаспадарча-вытворчыя патрэбы. Трэба будзе павялічыць процант водпуску сродкаў, пачынаючы з рэспубліканскіх прадпрыемстваў і канчаючы прадпрыемствамі раённага маштабу.

Я думаю, што Сэсіі ЦВК трэба будзе ў наступным годзе імкнуцца да паніжэньня (праўда, ужо ёсьць вялікае паніжэньне) выдаткаў па адміністрацыйнай групе, але ўсё-ткі лічба, якая ёсьць па акругах—16,5 проц.—я лічу, што яна яшчэ высокая (раёны бяруць 5,7 проц.—лічба таксама высокая), але як-жа зьменшыць гэту лічбу? У гэтым годзе было зьменшана значнае скарачэньне штатаў, немагчыма было больш скарачаць. Я думаю, што гэта пытаньне ўпіраецца ня толькі ў скарачэньне штатаў, бо скарачэньнем штатаў мы мала дасяглі, але нам трэба будзе заняцца пытаньнем аб структуры і сыстэме працы нашых установаў і організацый. Нам трэба будзе заняцца гэтым пытаньнем, хоць РСІ і занялася ім. Тав. Оржонікідзе меў рацыю, калі рабіў даклад аб рэжыме экономіі на VII-м зьезьдзе профсаюзаў СССР, што мы яшчэ маем вялікія задачы ў гэтай галіне і што нам трэба будзе займацца з дня ў дзень гэтым пытаньнем. Скарачэньнем штатаў па ўстановах мы мала чаго даб'ёмся, а нам трэба заняцца выключна пытаньнем аб самай структуры ў нашых установах і організацыях. Я думаю, калі мы зоймёмся гэтай справай, дык будзем мець хоць якія вынікі. У нас ёсьць шмат такіх організацый, якія паралельна вядуць адну і тую-ж работу, трэба будзе перагледзець гэтыя ўстановы, магчыма, што можна будзе зьліць іх і гэтым самым скараціць апарат.

Далей, тут яшчэ, памойму, ня зусім дакладна прадугледжана ў бюджэце пытаньне, на якое зьвярнула ўвагу III-я Сэсія ЦВК. Гэта пытаньне аб дзяржнормаваньні. Праўда, мы дзяржнормавалі дзяржаўны апарат, але-ж ёсьць яшчэ аграмадная разьбежка ў зарплаце дзярж. і мясцовага бюджэтаў. Нам трэба будзе ўхіліць гэты недахват. Мы да сягонешняга дню яшчэ ніяк ня можам перайсьці на новыя стаўкі, ня гледзячы на тое, што была аб гэтым пастанова Сэсіі ЦВК. Я лічу, што мала дадзена месца ў бюджэце пытаньню зарплаты спэцыялістых і наогул вясковых работнікаў. Ня гледзячы на тое, што была пастанова III-й Сэсіі ЦВК аб тым, каб зьвярнуць вялікую ўвагу на падняцьце зарплаты некаторых установаў спэцыялістым, якія працуюць у вытворчых наркаматах. Усё-такі мы яшчэ бачым малыя дасягненьні ў гэтым пытаньні. Гэтае пытаньне адносна зарплаты каморнікам і іншых працаўнікоў па лясной і сельскай гаспадарцы. Мы на сягонешні дзень ня можам дагаварыцца з адпаведнымі організацыямі, якая павінна быць зарплата каморнікам. Сэзонны пэрыод надыходзіць. У мінулым годзе мы мелі вялікі недахват у гэтых адносінах.

У мінулым годзе каморнікам трэба было выяжджаць на работы, а пытаньне аб зарплаце ня было вырашана. Яно ня вырашана і да сягонешняга дню. У гэтым годзе было пастаноўлена аб тым, каб падняць зарплату каморнікаў на 12 проц. фактычнай зарплаты, якую яны атрымоўвалі ў мінулым годзе. Мы да сягонешняга дню ня можам аб гэтым дагаварыцца з адпаведнымі ўстановамі, а асабліва з Наркамфінам. Наркамфін лічыць, што фактычная зарплата каморнікам такая, Наркамзем дае спраўку, што фактычная зарплата іншая. Ёсьць разыходжаньні. Я думаю, што на гэту вытворчую групу, якая займае вялікае месца ў рабоце Наркамзему, трэба будзе больш зьвярнуць увагі.

Яшчэ адно пытаньне— гэта палажэньне агрономічнага пэрсоналу. Праўда, мы маем некаторае павышэньне заработнае платы агропэрсоналу, але гэтага мала. У нас наўсьцяж агрономічныя пункты нельга назваць агрономічнымі,—яны ня маюць абсталяваньня, ня маюць агрономічнай літаратуры, ня маюць патрэбных сродкаў для перамяшчэньня. Адзін рубель у месяц прадбачан па бюджэту на сродкі перамяшчэньня. І вось, калі паглядзець журнал агронома, які выдаецца ЦВК Саюзу, мы бачым там такую карыкатуру на агронома: вялікая палка ў руках, мяшок за сьпіною і ідзе ў такім відзе з аднаго вучастку ў другі. Агроному прыходзіцца траціць шмат часу на пераход пехатою на тыя альбо іншыя вучасткі для правядзеньня агрокультурнае работы сярод сялянства. Трэба на гэты момант зьвярнуць увагу.

Я гаварыў і на Прэзыдыуме ЦВК і ў Бюджэтнай Камісі па дакладу Радус-Зяньковіча аб скарачэньні сродкаў на спэцадзеньне каморнікам і меліоратарам. Ня гледзячы на тое, што ў нас ёсьць законапалажэньне, што ёсьць норма спэцадзеньня каморнікам і меліоратарам, што гэтай галіне работы мы надаем, асабліва ў Беларусі, вялікае значэньне,—усё-такі мы бачым у апошнім проекце, які падаецца на зацьвярджэньне Сэсіі ЦВК, што сумы, прадбачаныя на набыцьцё спэцадзеньня, выкінуты. Я думаю, што ўсё-такі гэта адбіваецца на рабоце як пэрсоналу па зямляўпарадкаваньню, гэтак і меліорацыі.

Далей, па-мойму, трэба прыняць пад увагу і тое палажэньне, што спэцыялістыя знаходзяцца ўсё-такі ў горшых умовах, чым у суседніх губэрнях РСФСР. Мы зараз сабралі ведамасьці для камісіі, якая вырашае пытаньне аб заработнай плаце каморнікаў. Пачынаючы з б. Гомельскай губэрні і канчаючы іншымі губэрнямі, заработная плата каморнікам вышэй, чым у нас, на Беларусі, і таму ня дзіва, што некаторыя спэцыялістыя прапануюць свае паслугі па запрашэньню тых альбо іншых губэрняў. Праўда, такіх зьяў масавага характару няма, каморнікі, якія працуюць на Беларусі, прымаюць пад увагу агульны стан умоваў. Яны працуюць і будуць працаваць, але гэты момант трэба прыняць пад увагу.

Апрача таго, я думаю, што ўсё-такі, ня гледзячы на тое, што абмяркована пытаньне на 3-й Сэсіі ЦВК аб працаўніках, якія працуюць на вёсцы, як мэдпрацаўніках, гэтак і лясных, яшчэ не дадзена досыць сродкаў на водпускі і г. д. Таварышы, хоць зараз ужо позна—бюджэт складзен,—але ўсё-такі некаторыя сумы трэба было-б адшукаць для таго, каб, даючы водпускі тым ці іншым працаўнікам, замяняць іх іншымі. Гэтага ў нас у бюджэце няма. Гэта адносіцца як да лясных, гэтак і да мэдпрацаўнікоў. Я не супярэчу проці таго, каб лясьнікоў выключыць надзел, але заробную плату ім неабходна павялічыць. З гэтым становішчам Наркамфін не згаджаецца, праўда, таму, што мы яшчэ сёньня ня маем досыць сродкаў для таго, каб па-

лепшыць іхняе становішча. Потым, ня гледзячы на пастанову ўсіх органаў аб узбраеньні лясной стражы, мы ўсё-такі ў бюджэце гэтага году маем выключэньне сум, прадугледжаных на гэта. Праўда, матывуюць тым, што яны атрымліваюць зброю дарма, але дагэтуль мы яшчэ ня ведаем такога выпадку, каб лясныя працаўнікі атрымлівалі дармовую зброю для лясной стражы. Вось на гэтых момантах я хацеў спыніцца. Што ў нас маюцца дасягненьні ў складаньні нашага бюджэту, ніхто ня можа адмаўляць, і тое, што дырэктывы Сэсіі выкананы, таксама трэба прызнаць, але таксама трэба даць пэўныя сродкі на тое, аб чым я казаў.

С т а р ш ы н я: Слова мае тав. Тумас.

Тав. Т у м а с: Я тутака ўжо многа выслухаў па поваду росту нашага дзяржаўнага бюджэту, ня гледзячы на тыя цяжкія ўмовы, у якіх знаходзіліся мы на працягу сямі год. Вядома, што пакінулі нам нашы суседзі, і як яны нашу Беларусь пад час адыходу разбурылі. Але я тутака спынюся на тым, што ўсё-такі мы маем 96.000.000 рублёў у бюджэце, уключаючы сюды Рэчыцу і Гомель. Мы бачым, такім чынам, што мы паступова падымаемся, і наш бюджэт з кожным годам расьце. Але таксама трэба адзначыць, што мы многа чаго страцілі, што ёсьць некаторыя адмоўныя моманты. Нападалі на т. Васілевіча, шчыпалі яго, што ён урэзваў і г. д. (В а с і л е в і ч: Не асабліва я больш урэзваю).

Адзін таварыш закрануў пытаньне беспрацоўя. Адкуль расьце беспрацоўе? Рост беспрацоўя ідзе за кошт сялян, батракоў, якім няма чаго рабіць на вёсцы і якія ідуць у горад, павялічваючы тым самым беспрацоўе. Наймы толькі ў летні пэрыод, а зімой ідуць у горад. Але на гэта трэба зьвярнуць увагу. Фабрык у нас яшчэ нямнога, дый тыя яшчэ толькі рамантуюцца, у бліжэйшыя часы будзем будаваць новыя заводы. І думаю, што тады частка беспрацоўных увальецца туды.

Адносна выкарыстаньня сродкаў тутака многа казалі. Часта ў нас яшчэ такое становішча, калі даюцца сродкі і іх не выкарыстоўваюць.

Цяпер спынюся на акругах. У мяне зьявілася думка, што было-б надзвычайна мэтазгодна скараціць колькасьць акруг. Калі-б мы скарацілі колькасьць нашых акруг да 5-ці, дык мы маглі-б, павялічыўшы ў акругах апарат, палепшыць становішча РВК і сельсаветаў у раёне.

Цяпер адносна культурнай работы. У вёсцы культурная работа знаходзіцца ў вельмі дрэнным становішчы. Самым галоўным недахватам зьяўляецца недахват літаратуры і кніжок. Сялянскія дзеці вельмі часта не маюць падручнікаў і ня толькі падручнікаў, але і алоўкаў і сшыткаў, як тут ужо ўспамінаў адзін з выступаўшых прамоўцаў. Здараюцца выпадкі навучаньня дзяцей па старых падручніках (Г о л а с з м е с ц а: Два гады таму назад гэта было, цяпер-жа гэтага няма). Я добра ведаю, што ў Станькаўскім сельсавеце дзеці вучацца па старых кнігах. Так што, таварышы, на пытаньне аб присылцы нам патрэбнай літаратуры трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу, трэба даць магчымасьць бедняком атрымаць асьвету.

Тут адзін таварыш гаварыў адносна спэцыялістых. Ён гаварыў, але не дагаварваў. Ён не дагаварыў таго, што ў раёне ў спэцыялістых няма памяшканьняў, дзе-б яны маглі працаваць. Ім прыходзіцца зьбірацца ў маленькую хатку, туды-ж прыходзяць і сяляне,—вось пры якіх умовах ім прыходзіцца працаваць. Я лічу, што трэба паклапаціцца аб памяшканьнях для спэцыялістых.

Хачу яшчэ спыніцца на пытаньні аб Чырвонай Арміі. Нам трэба

пашырыць казармы, таму што яны ў нас яшчэ дрэнна абсталяваны. Наогул, на пытаньні будаўніцтва трэба зьвярнуць больш увагі. На мінулай Сэсіі аб гэтым гаварылі, гавораць і цяпер. А ў нас пытаньне з памяшканьнямі стаіць вельмі востра. Кватэру надзвычайна трудна знайсьці.

Старшыня: Слова мае т. Масальскі.

Тав. Масальскі: Таварышы, калі мы сёньня гаворым, што расьце наш бюджэт, дык адначасна мы гаворым, што ў нас растуць і патрэбы. Тут гаварылі аб усіх ведамствах; з гэтай прычыны і мне хочацца сказаць некалькі слоў адносна нашых сельсаветаў. Ёсьць некалькі такіх сельсаветаў, якія маюць кожны свой бюджэт і гавораць, што гэтыя сельсаветы да некаторай ступені сябе выпраўдваюць. Са слоў т. Васілевіча відаць, што сельсаветы слаба працуюць. Яны працуюць слаба ў тым напрамку, што слаба прымаюць удзел у складаньні каштарысаў, слаба ўцягваюць насельніцтва ў гэту работу. Гэта адбываецца з тэй прычыны, што тыя два работнікі, якія ёсьць у сельсавеце, надзвычайна заграмоджаны працаю. Калі таварыш Гулякевіч гаварыў аб тым, што, каб палепшыць становішча работнікаў вёскі, ён лічыць неабходным паставіць пытаньне аб палепшаньні становішча сельсаветаў. Такім чынам, я лічу, што трэба заплаціць членам сельсаветаў за ўдзел у пленарным пасяджэньні па сельсаветах. Бываюць выпадкі, калі заместа 16-18 членаў сельсаветаў на пленарным пасяджэньні бывае толькі 8 чалавек, і гэтыя 8 чал. могуць перадаць усе тыя пытаньні, якія разглядаюцца на пленарным пасяджэньні, толькі тым удзельнікам, да якіх яны прымацованы, а рэшта застаецца ня ў курсе тых дырэктыў, якія выдаюцца зьверху. Для таго, каб утварыць зацікаўленасьць гэтых членаў сельсаветаў, трэба іх работу на пленарных пасяджэньнях аплаціць. Для гэтага прыдзецца адшукаць, прыблізна, каля поўмільёну, бо ў нас ёсьць 1.253 сельсаветы. Наркамфіну гэта не па смаку. Я лічу, што калі мы паднімем працаздольнасьць сельсавету (а тав. Васілевіч сказаў, што 300-350 тыс. ёсьць нядоімкі па сел.-гасп. падатку), дык лягчэй нам будзе спаганяць нядоімкі па сел.-гасп. падатку. Тады сваячасна будуць раздавацца падатковыя павесткі, сваячасна будзе растлумачвацца сялянству сыстэма падатку, члены сельсаветаў будуць акуратна зьбірацца на пленарныя пасяджэньні сельсаветаў і г. д.

Тав. Васілевіч гаворыць, што трэба спыніць усялякія льготныя водпускі лесаматар'ялаў. Зразумела, для Наркамфіну выгадней, каб было меней льготных водпускаў, але я-б сказаў, што льготныя водпускі лесу трэба рабіць і далей, але адначасна трэба накіраваць гэтую справу ў больш плянавым парадку. (Васілевіч з месца: Я ня меў на ўвазе сялян, а меў на ўвазе спыніць льготны водпуск лесу ўстановам). Я думаю, што калі тав. Васілевіч ня меў гэтага на ўвазе, дык тым лепш, але адначасна з тым, калі мы выдаём у льготным парадку лес, трэба патурбавацца, каб гэты лес выдаваўся ў плянавым парадку і каб ён імённа трапляў да бедняка; каб бядняк мог упарадкавацца і каб гэта яму дало карысьць. А то выходзіць, што сродкі адпускаюцца, льготны водпуск лесу адбываецца, але гэта робіцца ня ў плянавым парадку. У выніку гэты лесаматар'ял распыляецца, і мы не дасягаем тае мэты, да якой імкнемся, г.-зн., дапамогі бедняку. У далейшым гэтыя сродкі трэба выкарыстаць, як кажуць, рацыянальна: трэба, каб яны не распыляліся без карысьці.

Цяпер скажу некалькі слоў адносна об'ектаў абкладаньня. Тут, бясспрэчна, трэба ў далейшым ня толькі зварачаць увагу на коль-

касны падлік, але і на якасны бок, бо якасная работа мае тут досыць вялікае значэньне.

А што тычыцца рацыянальнага выкарыстаньня сродкаў, дык тут ужо вядома,—тыя гаспадарчыя прадпрыемствы, якія чуюць за сабой у гэтых адносінах якую-небудзь віну, павінны будуць падцягнуцца.

Затым, я хацеў-бы сказаць наступнае. У дакладзе бюджэтнай камісіі як быццам прасьлізнула думка аб тым, што трэба проста зрабіць рэорганізацыю і некаторыя акругі зьліквідаваць. Я таксама лічу, што гэта было-б рацыянальна. Так як наша рэспубліка ўжо не такая вялікая, было-б лепш, замест цяперашніх 12 акруг, мець шэсьць. З выключэньнем некаторых акруг атрымаецца эканомія сродкаў, і вось мы будзем ставіць пытаньне аб тым, каб за-кошт гэтай эканоміі ўзмацніць нашы сельскія саветы і раёны. (В а с і л е в і ч з месца: Можа што-небудзь выгаднейшае прыдумаем).

Пераходжу цяпер да Наркамасьветы. Ён атрымлівае на свае выдаткі амаль трэць нашага бюджэту, але я лічу, што Наркамасьветы зрабіў усё-ткі няправільны ўхіл, павялічыўшы школьным працаўніком пэнсію. Школьны работнік раней атрымліваў 32 рублі, а ў гэтым годзе ён атрымлівае 36 руб., так што ён папярэдзіў нават старшыню сельсавету. Але-ж мы бачым, што адказнасьці ў старшыні сельсавету, які адказвае за культурнае, эканомічнае і палітычнае становішча ўсяго сельсавету, больш, чым у школьнага работніка, які нясе адказнасьць за 50-60 вучняў. Відавочна, Наркамасьветы тут узяў няправільны ўхіл, і лепш было-б гэтыя сродкі зьвярнуць на загатоўку падручнікаў. Тав. Дайнэка ўжо сказаў, што школьныя работнікі маюць ня надта вялікую адукацыю (Д а й н э к а з месца: Я не казаў аб усіх, я сказаў, што нязначная частка іх).

Дык што-ж ім і пэнсію павялічваць?

Цяпер адносна сямігодак. Тав. Анішчэнка сказаў, што з сямігодкамі справа кепска стаіць, і яны не здавальняюць усёй патрэбы сялянскай моладзі. Гэта тлумачыцца тым, што патрэба ў адукацыі сялянскай моладзі надта вялікая, а школ ня так ужо і многа—на раён 2 школы. Гэтага мала. Каб мы, нават, пабудавалі на раёне 6 сямігодак, дык і ў гэтым выпадку моладзь усе сямігодкі запоўніла-б. Аднак, мы гэтага пытаньня ставіць ня можам, бо наш бюджэт ня вытрымае. Трэба выходзіць з тых магчымасьцяй, якія ў нас ёсьць.

Дрэнна яшчэ стаіць справа з паралельнымі школамі. Гэтыя паралельныя школы вынікаюць з прычын націску сялянства ў школы. Сялянства хоча навучаць сваіх дзяцей у школах і, з прычыны немагчымасьці адкрыцьця новых школ, яно прапануе свае паслугі і, складаючыся разам, нанімае настаўнікаў і пасылае да яго сваіх дзяцей вучыцца. Аднак, гэтыя паралельныя школы не зьяўляюцца жыцьцёвымі. Яны неяк не прывіваюцца: або школьны працаўнік выходзіць, або бацькі пачынаюць протэставаць, або ня плоцяць сваячасна, і ў выніку гэтыя школы развальваюцца.

Тав. Анішчанка гаварыла аб лесапарушэньнях. Вядома, аднаго куб. мэтра на гаспадарку не хапае. Але я-б сказаў, што тут ня ў гэтым справа. Куб. мэтр адпушчаецца добрага дрэва, а да гэтага адпушчаецца яшчэ і дробнага лесу—2-3-х вяршковага. Бяда ў тым, што водпуск адбываецца несваячасна і няправільна. Я-б прывёў прыклад па Сенненскаму раёну. Калі я там нядаўна быў на вёсцы ў Здольлі, дык там грамадзяне жаліліся на тое, што ў мінулым годзе лясьніцтва выпісала білет на 120 куб. саж. на пэўным вучастку, а выраблена там усяго 70 саж. Лясьніцтва атрымала грошы спаўна, а дроў дало толькі 70 саж. Ці правільна гэта? Вядома, што не. Тут ужо віна тых

лясных установ, якія ня досыць чула адносяцца да сялянства і якія ня рупяцца аб іх патрэбах, так што тут трэба трохі націснуць на лясныя ўстановы, каб яны рацыянальна і сваячасна разьмяркоўвалі гэты лес.

Тав. Козыраў ужо гаварыў, што сельсаветы трэба проста скараціць і замест іх паставіць проста зборшчыкаў. Так ставіць пытаньне нельга, таму што мы якраз ад сельсаветаў чакаем вялікай работы.

Потым таварышы з Гомелю гаварылі, што сялянства больш плоціць падаткаў. У нас пытаньне стаіць такім чынам,—краіна наша сельска-гаспадарчая, і што сталася-б з нашае агульнае гаспадаркі, каб ня сельская гаспадарка. Наша прамысловасьць толькі пачынае разгортвацца, так што ад нашай прамысловасьці ў сучасны момант шмат чакаць ня трэба, а трэба больш чакаць ад сельскай гаспадаркі.

Старшыня: Слова мае т. Грышкін.

Тав. Грышкін: Таварышы, тут якраз шмат гаварылі пра тых тэхнікаў, якія нам патрэбны. Тав. Гнілякевіч казаў, што трэба торф распрацоўваць. Гаварылі адносна выяўленьня об'ектаў абкладаньня і аб цэлым шэрагу іншых недахватаў, якія цяпер ёсьць.

Дык вось, дзе-ж браць гэтых тэхнікаў? Калі мы возьмем нашы сельсаветы, дык яны самі зьяўляюцца і тэхнікамі, яны зьяўляюцца і кур'ерамі і пешаходамі. Калі мы сёньня возьмем старшыню сельсавету, дык ён зьяўляецца і істапнікам і рассыльным. Паглядзім на ўмовы яго жыцьця. Мала таго, што ён знаходзіцца ў дрэнных абставінах,—яму прыходзіцца пехатой хадзіць каля 35 вёрст з сельсаветаў у райвыканкомы, так што становішча яго самае дрэннае. Тут т. Гнілякевіч зварачваў асаблівую ўвагу на лясьнікоў, аб'езчыкаў. Калі мы возьмем лясьнічага або аб'езчыка, дык лясьнічы атрымоўвае 80 руб. у м-ц, а на 200 прадасьць сена. Мне здаецца, што ў першую чаргу трэба зьвярнуць увагу на самую адсталую групу. Возьмем, напрыклад, нашага старшыню або сакратара сельсавету. Гэта-ж самыя застрэльшчыкі ўсяе нашае тэхнікі. Яны сёньня зусім не адпавядаюць свайму прызначэньню, таму што ў сельсаветах часта служыць той, якому зусім ня трэба служыць. Калі-ж мы вылучым якога-небудзь бедняка, які мае сям'ю з 5-6 чалавек, дык зразумела, што ён ня можа пражыць на 25 руб. Возьмем нашых міліцыянэраў тэй-жа самай вёскі. Становішча іх таксама дрэннае,—таму што зараз ня так, як было раней. Цяпер мы праводзім рэволюцыйную законнасьць у вёсцы, і цяпер, калі прыдзеш куды-небудзь паесьці, дык, калі ласка, заплаці, а калі не заплаціш, значыцца, прышле табе пракурор, што на падставе вось такога артыкулу ты пачынаеш рабіць глупства. Так што, таварышы, на гэтыя дзьве групы мала зьвернута ўвагі. Возьмем хоць-бы перасоўваньне,—калі мы ўнесьлі тры або 4 з паловай рублі, дык гэта глупства, ніводнай падводы няноймеш, а ў нас у некаторых акругах, напрыклад, у Барысаўскай акрузе, сельсавет стаіць ад РВК за 35 вэрст.

Такім чынам, на будучы раз Наркамфіну трэба зьвярнуць увагу на гэты бок. Тав. Зяньковіч гаворыць, што трэба каштарысы абтаварваць на агульных сходах сялянства, каб іх зацікавіць. Мы абгаворвалі і абгаворваем, мы канчаткова абрэзваем наш каштарыс да мінімуму, а потым, калі гэты каштарыс пападае ў бюджэтную камісію, хоць у акруговую, дык там таксама абразаюць. А становішча вельмі цяжкое, хоць-бы з гаспадарчымі выдаткамі. Ня трэба займацца шмат пісанінай, таму што для гэтага патрэбны апарат: машыністка, розныя спэцыялістыя, а каштарыс у раёне моцна ўрэзваецца. Дык навошта займацца гэтым. Проста лепш фінансаваму аддзелу надрукаваць агульны каштарыс і накіраваць належным парадкам.

Цяпер, тут гаварылі аб зарплаце. Зазначалі на тое, што разыходзіцца зарплата па дзяржаўных і мясцовых бюджэтах. Зазначалася, што Менскі акрвыканком атрымоўвае меншыя стаўкі, чым цэнтральныя ўстанова г. Менску. Тое самае мы бачым і ў Барысаўскім акрвыканкоме. Ён знаходзіцца ў самым горадзе, а супрацоўнікі яго атрымоўваюць зарплату не як гарадзкія, а як вясковыя працаўнікі. Нават кватэры ня мае магчымасьці мець супрацоўнік акрвыканкому за сваю зарплату. Мне здаецца, што над гэтым пытаньнем трэба будзе як Наркамфіну, так і бюджэтнай камісіі падумаць, для таго, каб паставіць працаўнікоў у аднолькавыя ўмовы.

Цяпер неабходна застанавіцца на некалькіх момантах:

1) Гэта аб паступленьні сел-гаспадарчага падатку. Тут атрымліваем такое становішча, што з усіх канцоў б'юць, пасылаюць тэлеграмы на падставе 10-га артыкулу аб грашовых справах, і калі маецца тэлеграма акружнога фінансавага аддзелу, дык там зусім не прызнаюць гэтай тэлеграмы, кажучы: гэтага артыкулу нам ня трэба. І вось неплацельшчыкі зарабляюць грошы, бо з іх нічога ня ўтрымліваецца.

Цяпер, аб лясох. Ёсьць шмат плякатаў, але я думаю, што тут плякатаў ня трэба, а трэба аднесьціся больш сур'ёзна да гэтага пытаньня, таму, што лес зьнішчаецца. Ёсьць выпадкі,, калі па 100-200 дамоў адпраўлялі ў Маскву і ў Смаленск. Гэта адно становішча. Другое становішча, што ёсьць высечкі ў 200-300 рублёў. Гэта раскраданьне народнай гаспадаркі, гэта чысты зьдзек. Я лічу, што ў гэтым напрамку трэба прыняць больш рашучыя меры, каб гэтых высечак ня было. У гэтым раёне, дзе я працую, высечак зроблена на 180 тысяч рублёў— гэта цэлая вакханалія. Наркамзему неабходна выпрацаваць сталыя дырэктывы, каб гэтых дамоў не прадавалі.

Калі тут гаварылі аб падатку, трэба трохі пагаварыць аб тым законе, які маецца. Тут таварыш гаварыў адносна 104 п. «т», дзе даюцца льготы вучням пэдтэхнікумаў і інш. навучальных устаноў. І вось, калі налічваецца на якога-небудзь гаспадара 120 руб., а тут, калі прыстасаваць 75 проц., дык гэта проста недапушчальнасьць: тады пачынае галасіць бедната. Я лічу, што неабходна гэты момант падкрэсьліць.

Старшыня: Слова мае тав. Цыганкова.

Тав. Цыганкова: Таварышы, я скажу таксама адносна вёскі. Калі я была на перавыбарах сельсаветаў, дык я чула там такія пытаньні. Сяляне заяўлялі адносна рамонту дарог. Быў пастаўлены даклад, каб мясцовыя дарогі адрамантаваць сіламі сялян; вядома, калі патрэбуюцца матэрыялы, тады будзе аказана дапамога лясьніцтвам. І вось мы бачым, што дзе-ні-дзе дарогі мясцовага значэньня адрамантаваны, а цэнтральныя, дзяржаўныя—не. І сяляне гавораць: няхай падлічаць зямлю, якая яшчэ схована, няхай возьмуць ува ўсіх падатак, і тады будзем мець магчымасьць даць сродкі на рамонт гэтых дарог.

Што тычыцца школ, дык сяляне заяўляюць, што школы-сямёхгодкі патрэбна абавязкова адчыніць у сельсаветах. Ім не хапае сямёхгодкі ў раёне таму, бо туды бядняцкія дзеці не пападаюць: у беднякоў няма сродкаў, каб наняць кватэру, падругое, няма сродкаў, каб дзяцей абуць і адзець, а калі якое дзіця і пападае, дык яно можа вучыцца ня больш году, бо ў яго бацькоў няма грошай. Мы знаем, што ў школы трапляе большасьць дзяцей серадднякоў або заможных гаспадароў. Яны хутчэй туды пападаюць таму, што ў селяніна-бедняка няма грошай, каб паслаць туды сваё дзіцё, а ў іх ёсьць. Калі няма магчымасьці адчыніць сямёхгодку, няхай хоць адчыняць 4-годку,

каб хоць крыху дзеці павучыліся, бо мы бачым, што запатрабаваньні ў сялян сталі вялікія. Мы бачым, што сялянства разьвіваецца, яно ведае, што дзяцей трэба вучыць, яно гаворыць: мы няпісьменныя, але няхай хоць нашы дзеці будуць пісьменнымі.

Потым была заява, каб скараціць канцэляршчыну, якая вымагае многа служачых, а на так раздутыя штаты ідзе многа грошай.

Яшчэ адносна сельска-гаспадарчага падатку. Нарастае пеня. Сяляне нічога проці пені не гавораць, але кажуць: калі нам прыпісана пеня, дык я як толькі абярнуся, зараз-жа заплачу пеню, але нашто-ж мяне апісваюць.

Потым была заява сялян, якія катэгорычна кажуць, што скрыта зямля 7 дзесяцін ёсьць, а паказаў на 3 менш, а рэшта ўтаена.

Потым аб больніцах. На раён маецца адзін фэльчар і доктар, да і той практакант, і яны нядбала адносяцца да справы, і гэта няпрыемна. Вельмі прыкра селяніну, калі ён прыехаў за 40 вёрст і яго доктар ня прымае. Селянін ня ведае, куды яму дзецца: вяртацца дахаты ці пачакаць да заўтра? Такое становішча бывае, і яго трэба ўрэгуляваць.

Потым заяўлялі таварышы, што трэба мэліорацыю праводзіць, але ня трэба браць за тую зямлю, дзе мэліорацыя праведзена, сельска-гаспадарчага падатку, каб яе ня прымалі пад увагу ў падатку, бо яна ня прыносіць карысьці.

Дровы. Тутака на Сэсіі, таксама, як і там, у сельсавеце, гавораць, што вельмі мала даюць дроў, а ў маім пункце, у Бабінавічах, вось што сяляне гавораць—ня крычаць, каб ім далі дровы, а крычаць, каб дазволілі ў горад везьці прадаваць. Чаму адбіраюць? Бо яны не патрабуюць, у іх лес навскал, і ім толькі трэба, каб дазволілі везьці ў горад прадаваць.

Потым заяўлялі, што калі адводзяць невялікі палетак сярод поля і 50 сажняў да лесу, то лясьніцтва далічыла гэта да дзяржаўнага вучастку. Гэта зусім не падыходзіла, таму што навакол яго зямлі, і яго вучастак на 50 саж. да лесу. Так што і такая была заява. Водпуск лесу—гэта сапраўды хворае пытаньне. Аб водпуску лесу гавораць на сходах, на зьездах, гавораць аб тым, што сялянам адпушчаецца лес. Гэтыя гутаркі толькі нацкоўваюць сялян. Трэба ці зусім не даваць лесу ці даваць лес добры, які прыгодны быў-бы для будоўлі. Вось, скажам, адпусьцілі якому-небудзь Івaнову ці Міхайлаву лес. Ён прыяжджае за лесам, і яму даюць напалову прыгодны будаўнічы матэрыял, а на палову жэрдак. Сяляне, атрымоўваючы жэрдкі, заместа будаўнічага матэрыялу, вельмі хвалююцца. Калі ёсьць пастанова, каб адпушчаць бярвеньне, дык і трэба адпушчаць бярвеньне, а ня жэрдкі, бо такія зьявы выклікаюць нараканьні сялянства на савецкую ўладу. Вось і ўсё, што я хацеў сказаць.

Старшыня: Слова мае т. Мар'ясін.

Тав. Мар'ясін: Наш урад, як і ўрад усяго Савецкага Саюзу, вельмі чула прыслухоўваецца да тэй думкі, якую сёньня выказаў таварыш Тамашэвіч. Тав. Тамашэвіч гаварыў адносна неабходнасьці павялічэньня прыбыткаў ад прамысловасьці. Гэта і ёсьць наша імкненьне. Да гэтага мы ідзем. Але тав. Тамашэвіч не бярэ пад увагу аднаго, і нават вельмі важных акалічнасьцяй. Папершае, мы ў гэтым годзе маем вялікі ўзрост прамысловасьці. У 1925-26 годзе мы мелі вялікі ўзрост. Трэба прыняць пад увагу, што ў нашу прамысловасьць уліваюцца кадры новых рабочых, і натуральна, што гэтыя рабочыя зь





зілі вытворчасьць працы. Я магу даць справку, што ў нас у трэсьце адбылося зьніжэньне вытворчасьці, дзякуючы новым рабочым. Мы ўлілі ў тысячную масу рабочых каля 500 новых рабочых з вёскі; адсюль ня цяжка зрабіць вывад, што ва ўсім будаўніцтве, як і ў будаўніцтве фабрык, так і ў разьвіцьці прамысловасьці і ў наборы рабочай сілы практыка і палітыка Савецкай улады ўвязвае інтарэсы сялянства з усёй прамысловасьцю.

Тав. Гельтман учора ў сваёй прамове прывёў нам шэраг матэрыялаў аб жыцьці ў Польшчы, і я зьвярнуў увагу на адну вельмі цікавую частку яго прамовы, дзе ён гаворыць: «калі-б польская буржуазная прэса хацела сур'ёзна заняцца пытаньнем, чаму ёсьць незадаволеньне ў Заходняй Беларусі, дык яна дагаварылася-б, што яно існуе, дзякуючы цяжкім экономічным умовам, дзякуючы таму, што няма выхаду для сялянскіх свабодных рук». Мы гэтага ў нас ня маем. Я страціў гэту пару хвілін дзеля таго, каб яшчэ больш усіліць т. Тамашэўскаму гэтае пытаньне, якое, магчыма, і без таго было для яго ясным.

Далей, наш бюджэт ня ўвязваецца з крэдытным плянам наогул, г. зн., з крэдытнай і банкаўскай політыкай. Я думаю, што т. Васілевіч яшчэ будзе гаварыць аб гэтым пытаньні, бо ў сваёй прамове ён яго вельмі мала закрануў. Я падам некалькі прыкладаў няўвязкі нашага бюджэту з крэдытным плянам. Я сачыў за ростам опэрацый нашых банкаў па матэрыялах, выданых НКФінам к Сэсіі. Мы бачым, што ў той час, як рост банкаўскіх опэрацый ідзе ня вельмі моцна наперад, што рост спэцыяльных банкаў моцна пасунуўся наперад. У гэтых матэрыялах даюцца зьвесткі аб павялічэньні некалькіх сот проц. банкаўскіх опэрацый, а тымчасам мы бачым, што фіскальны бок застаецца так, як і раней. Мы бачым, што процант вучоту ня зьніжаецца спэцыяльнымі нашымі банкамі—Комунальным, Сельскагаспадарчым. Зусім няма зьніжэньня вучоту. Гэта недапушчальна. У той час, як дзяржбанк павялічае свае опэрацыі, мы ўсё-ткі бачым у яго тэндэнцыю да зьмяншэньня вучотных процантаў,—яны ніжэйшыя, чым у іншых банках. Далей, зьвярнеце ўвагу яшчэ на адзін факт. У нас ёсьць шэраг органаў, рэгулюючых пытаньні крэдыту. Я-б мог нанізаць з іх бясконцую нітку. Раней усяго гэта робіць Промплян і Дзяржплян па разгледжаньні вытворчых програм, зацьверджаных Саветам Народнае Гаспадаркі. Гадавыя пляны зацьвярджаюцца прыстасоўна да росту і разьвіцьця ўсяе гаспадарчае організацыі, а потым пачынаецца «хождение по мукам»: пачынаецца раней усяго з акрпляну. Акрплян разглядае квартальныя заяўкі і, у лепшым выпадку, іх ледзь-ледзь скарачае супроць гадавых плянаў. Далей ён зноў пераходзіць на разгледжаньне ў ЭКОСО і ў Дзяржплян, якія запамінаюць, што яны ўжо абразалі, і абразаюць яшчэ. Потым гэтыя пляны трапляюць у банкаўскія організацыі, якія ў гэтай справе маюць апошняе слова, і яны, лічачыся са сваімі фінансавымі рэсурсамі, натуральна даюць столькі, колькі могуць. Такім чынам, зьяўляецца моцнае разыходжаньне між зацьверджанай програмай вытворчасьці і між выкананьнем гэтае працы ў працягу году. Вось тут і вядзі здаровую разумную рацыянальную працу па гаспадарчым будаўніцтве, калі нашы пляны зрываюцца. Мне здаецца, што на гэта пытаньне правільнага здаровага росту нашае прамысловасьці нашаму ўраду трэба зьвярнуць увагу. Трэцяе пытаньне,—гэта маленькая справка т. Васілевічу. Тав. Васілевічу ўжо многія давалі справкі. Тав. Васілевіч упікаў нас у тым, што грошы бралі, але іх не выкарыстоўвалі. Некаторыя далі справку, што грошы былі ня выкарыстаны таму, што яны былі позна атрыманы. Гэта праўда, грошы з ОДК мы атрымалі з запазьненьнем.

Перайду да пытаньня аб лясох. Па пытаньні аб лясох, мне здаецца, у нас ёсьць вельмі шмат паўтарэньняў. З аднаго боку, мы чуем «Давайце лесу!», а з другога кажуць аб тым, што ў нас лясы вырублены за 20 год наперад і што нам трэба распрацоўваць тарфяныя залежы. Дзе-ж выхад? Дарма папікалі т. Анішчэнка. Мы крычым на працягу 4-х год «шкадуйце лясы», «распрацоўвайце торф». Тав. Ігнатоўскі мог-бы напісаць добры артыкул аб карысьці лесу. Мне здаецца, што даволі ўжо затрымліваецца на нясупыннай агітацыі—«распрацоўвайце трофь». Я глыбока перакананы, што наша сялянства вельмі добра разумее значэньне лесу, але трэба-ж калі-небудзь зрабіць цьвёрды крок наперад і ўзяць моцна ў рукі пытаньне распрацоўкі торфу, кінуўшы займацца беспрадметнай агітацыяй. Мы ўсе яшчэ агітуем і агітуем, а тымчасам усё яшчэ няма аніводнага органу, які ўзяўся-б як трэба за справу распрацоўкі торфу. Гэта першае, а другое гэта тое, што ў нас няма ніякіх дасягненьняў у тэй галіне, каб даць сялянам што-небудзь другое для будаўніцтва, замест лесу. А наша-ж сялянства будуецца і будзе будавацца, і ня гледзячы на тое, што на Захадзе зьбіраюцца хмары, я глыбака перакананы, што сялянства наша будзе будавацца. (Голас з прэзыдыуму: І добра, што будуецца). Правільна, добра. Але-ж трэба з чаго-небудзь будаваць, а тымчасам у нас да гэтага часу не разьвінута як трэба цагляная справа, пры мясцовай гаспадарцы чарапічная справа, і мы штогодна губім лес, і штогодна чырвоны певень гуляе па вёсцы. Праўда, як быццам-бы дзяржстрах ратуе ў такіх выпадках, але-ж дзяржстрах ратуе ня поўнасьцю; з гэтай прычыны мне здаецца, што гэтае пытаньне трэба завастрыць, зьвярнуць асаблівую, падвойную ўвагу, таму што пытаньне аб будаўніцтве ў вёсцы—гэта ёсьць свайго роду пытаньне кватэрнай політыкі ў вёсцы—займае і будзе займаць вялікае месца. І мне здавалася-б, што трэба на гэтай Сэсіі ў тэй камісіі, у якой мы будзем выпрацоўваць пытаньні, што маюць сувязь з прамысловасьцю і бюджэтам, завастрыць пытаньне адносна будаўніцтва ў вёсцы.

І апошні момант, на якім я хачу спыніцца і якім я канчаю. Я баюся, што мы вельмі ўжо вялікія, іншы раз, максымалістыя. Калі гавораць аб скарачэньні, дык гавораць: давайце рацыяналізацыю, давайце скарачэньне да канца, так што таварыш Тумас дашоў да таго, што па яго думцы трэба скараціць 6 акруг. Таварышы, я ў даным пытаньні вялікі консэрватар і не баюся аб гэтым тут сказаць, бо я ведаю, у што нам абходзіцца ўсякая перабудоўка, усякія пертурбацыі. І мне здаецца, што гэты ход (не хачу сказаць, што гэта абдуманы ход) зьяўляецца вельмі добрым мотывам для тых, хто можа рацыяналізаваць што-небудзь у сваёй маленькай ячэйцы, у сваёй маленькай організацыі, а, замест гэтага, лічыць патрэбным заняцца большымі пытаньнямі аж да ліквідацыі акруг і цэнтральных устаноў, забываючы тое, што ён можа зрабіць каля сябе непасрэдна. Я лічу, што гэты ўхіл няправільны, нездаровы, шкадлівы. Прыдзе чарга і вялікай справе. Я глыбока ўпэўнен, што мы калі-небудзь дойдзем і да акруг. (Голас з месца: А як вы будзеце рабіць з сельсаветамі?). Пачакайце. Я далей вас іду і лічу, што мы ня толькі павялічым акругі, але я глыбока ўпэўнен, што мы хутка будзем будаваць нашы губэрні. У нас хутка тады будуць Менская губэрня, Магілёўская губэрня, Горадзенская губ. і г. д. (сьмех).

Гэта не імпэрыялізм, а няўхільны гістарычны ход рэчаў. Мне здаецца, што зусім ня трэба даваць пароль, каб усе думалі ў сябе на мясцох, у вёсцы і раёнах, як правільней перакройваць акругі. Магу вас упэўніць,

што калі прыдзе час, дык гэтым зоймемся. А вось зараз давайце рацыяналізаваць хоць тое, што ў нас сёньня ўжо пасьпела. Я вам для ілюстрацыі прывяду толькі пару прыкладаў.

Толькі нядаўна ў нас скончыўся партыйны зьезд, на якім т. Зяньковіч сказаў вельмі многа каштоўнага па пытаньні рацыяналізацыі, скарачэньня, вызваленьня ад блыкаючых нырак і лішніх сьляпых кішок і г. д. А тымчасам толькі-толькі скончыўся зьезд, і мы зноў маем кіпу непатрэбнай паперы. Толькі нядаўна мы атрымалі ад аднэй шаноўнай установы запатрабаваньні, дзе яны просяць нас паведаміць іх, колькі мы ўжываем на працягу году ўсялякіх канцэлярскіх прылад, пачынаючы ад пер'яў і ручак і канчаючы паперай і г. д. (Чарвякоў: Хто гэта?). Паколькі Старшыня ЦВК пытае, дык я скажу: Наркамгандлю. (Сьмех). (Адамайціс з месца: Гэта для высьвятленьня разьмераў імпорту). Калі-б там была прыпіска аб тым, што гэта неабходна ў мэтах высьвятленьня разьмераў імпорту, дык гэта было-б зразумела. (Сьмех). А то-ж мы ня ведаем. Хоць мы ведаем, што ёсьць і па-заплянавы імпорт, і па гэтаму імпорту была закуплена заграніцай эмаляваная пасудзіна спэцыяльнага прызначэньня. (Сьмех). Так вось я баюся, каб у гэтага году імпорт не папала і гэтая заяўка аб паперах спэцыяльнага вызначэньня. (Сьмех). Вось вам жывы прыклад нашага штодзеннага жыцьця. І пішацца гэта на вялікім лісьце, праўда, не за подпісам т. Адамайціса, а з надпісам «па просьбе т. Адамайціса прашу паведаміць». і ўнізе подпіс працаўніка апарату. Гэта значыць: «Не памёр Даніла, але балячка задушыла». (Сьмех). Такіх прыкладаў можна прывесьці шмат. Сэсія ЦВК, як і партыйны зьезд, павінна зьвярнуць увагу кожнага працаўніка—сельскага, раённага—на неабходнасьць рацыяналізацыі і правільнае экономіі і гэтую работу правесьці ўсюды. Я запэўняю вас, што ў адносінах да цэнтральных і акруговых устаноў, калі гэта будзе патрэбна, гэта таксама будзе зроблена.

Старшыня: Слова мае т. Блажэвіч.

Тав. Блажэвіч: Выступаўшыя таварышы прабавалі крытыкаваць наш бюджэт, але, падыходзячы да яго бесстаронна і об'ектыўна, неабходна ўсё-ж сьцьвердзіць, што бюджэт цяперашняга году складаецца ў непараўнана лепшых умовах і больш правільна, чым гэта было ў мінулым годзе. Перш усяго, мы маем у бюджэце цьвёрдыя лічбы. Няма ўжо тых выкрэсьліваньняў і закрэсьліваньняў, розных скарачэньняў, якія мы мелі ў мінулым годзе. А падругое, самы процэс распрацоўкі, тэхніка складаньня бюджэту прашла значна лепш і гладзей, чым раней. Няма тае сьпешкі, якую мы мелі ў мінулым годзе. Зусім своечасна былі паданы орыентовачныя лічбы на III-й Сэсіі. Там гэта было прагледжана і абгаворана зусім своечасна і грунтоўна; а потым ужо, пасьля атрыманьня лічбаў з цэнтру, мы маглі сабраць працаўнікоў з месц, даволі падрабязна ўжо ўсё гэта адшліфаваць з тым, каб прыпаднесьці ўжо гэтую справу канчаткова на зацьверджаньне сягонешняй Сэсіі. Наогул трэба сказаць, што ў складаньні бюджэту мы зрабілі значны крок уперад, параўнаўча з мінулым годам. Няма ўжо тых грубых нарушэньняў бюджэтнае дысцыпліны, няма грубых і рэзкіх ухілаў ад бюджэтнае політыкі. Т. Васілевіч нам паказаў толькі адзін факт, што меў месца на 4.000 р. з вэксалямі, іншых, нібыта, і ня было, і мы ня чулі. Наогул у гэтай справе мы маем цэлы шэраг дасягненьняў. З дасягненьняў трэба адзначыць яшчэ выпаўненьне дырэктыў цэнтру ў адносінах павялічэньня выдаткаў на асыгнаваньні на культурна-гаспадарчыя і прамысловыя патрэбы. Гэта таксама зьяўляецца дадатным бокам, нашай за-

ваёвай. Далей, поруч з гэтым дасягненьнем, зразумела, як у кожнай вялікай справе, мы маем некаторыя недахваты, якія, я-б сказаў, скарэй можна было аднесьці да агульнае сыстэмы, чым недахваты нашага апарату. Да такіх недахватаў перш усяго трэба аднесьці нязвычайную слабасьць і нямоцнасьць нашых раённых бюджэтаў (нізавых савецкіх бюджэтаў). Нашы раённыя бюджэты зложаны, як тут ужо адзначалася, з найвялікшым напруджаньнем, зложаны з вялікаю нацяжкаю сродкаў. Тыя прыбытковыя артыкулы, якія ёсьць у раёнах, надзвычайна нікчэмны і няжыцьцёвы. Гэта гаворыць за тое, што ў далейшым неабходна гэтыя артыкулы павялічыць, бо раённы бюджэт зьяўляецца нерэальным і незапраўдным. Запросы нашых савецкіх апаратаў, бязумоўна, павысіліся, а выдатковыя артыкулы, на жаль, надзвычайна малыя. Вось на гэтым у будучым неабходна грунтоўна стаяць, каб павялічваць выдаткі нашых раённых сельсавецкіх і местачковых бюджэтаў.

Далей, неабходна адзначыць, што ня гледзячы на дырэктывы цэнтру аб тым, каб нашы бюджэты абгаворваліся з прыцягненьнем шырокіх мас працоўных, усё-ж такі гэты момант быў парушан, і мы маем тут азначаныя мінусы і недахваты. Мы ведаем, што сялянства цікавіцца, рабочы цікавіцца і наогул усе працоўныя цікавяцца кожнаю савецкаю капейкай, куды яна ідзе, як яна трацiцца, як яна выкарыстоўваецца, і ўсё-ж мы ня чулі заяў мясцовых работнікаў, чаму імена, якія прычыны перашкаджалі таму, што ня былі прыцягнуты працоўныя для абгаварэньня бюджэту. Вельмі важна гэта пачуць ад мясцовых працаўнікоў, бо часу было досыць, сьпешкі ня было.

Потым мы ня чулі заявы ў адносінах той практыкі ў складаньні і жыцьцёвасьці бюджэтаў сельсаветаў. Мы ведаем, што ўжо пяць месяцаў працуем па бюджэту сельсавету. Мы ня чулі заявы аб тым, наколькі мэтазгодна, наколькі практычна жыцьцёвыя гэтыя каштарысы сельсавету, бо гэта зьяўляецца практыкай па адным сельсавеце, і неабходна з гэтым падзяліцца для таго, каб зрабіць адпаведныя вывады ў далейшым.

Далей, ня гледзячы на ўвагі цэнтру, мы выдаткі на ўтрыманьне адміністрацыйнага апарату. досыць жорстка ня рэзалі, ня досыць скарачалі. Вочавідна, гэтае пытаньне ў поўнай меры будзе пастаўлена на зьезьдзе, і там вочавідна будзе меркавацца ўся сыстэма нашага кіраваньня, уся сыстэма нашых апаратаў.

Наступнае пытаньне, на якім я хацеў спыніцца,—гэта асыгнаваньні на будаўніцтва дарог. Ня гледзячы на значныя павялічэньні асыгнаваньняў на дарожнае будаўніцтва ў межах Беларусі, усё-ж такі трэба сказаць, што ва ўмовах Беларусі, ва ўмовах магчымасьці вайны, калі Беларусь зьяўляецца плацдармам, калі Беларусь зьяўляецца тэатрам будучых ваенных падзей. адсутнасьць шляхоў, бязумоўна, будзе зьяўляцца вельмі шкадлівым у наступных падзеях. Дзеля гэтага, разумеецца, выдзеленыя сродкі вельмі вялікія ў параўнаньні з Гомельскай губэрняй (як тутака ўжо адзначалі) і, можа быць, у параўнаньні з іншымі, але усё-ж такі трэба заўсёды памятаваць нам, што тутака неабходна дабівацца асыгнаваньняў з цэнтру для таго, каб дарожнае будаўніцтва значнымі крокамі пасунулася ўперад.

У заключэньне я хачу спыніцца на патрэбах вайсковых устаноў. На гэтыя патрэбы асыгнаваньні павялічаны на 51 проц., але патрэбы Чырвонае арміі, іменна ў будаўніцтве казарм узрасьлі яшчэ болей, узрасьлі таксама, як расьце наша гаспадарка хуткімі крокамі, бо ў казарменным будаўніцтве цяпер зусім іншыя патрабаваньні, чым у царскіх казармах. Наша казарма зьяўляецца школай для падрыхтоўкі і абу-

чэньня Чырвонай арміі. Нам патрэбна, каб наша армія ня толькі была роўнай з лепшай эўропэйскай арміяй, але наша задача ёсьць у тым, каб Чырвоная армія перавысіла лепшую эўропэйскую армію, гэта мы павінны мець, бо мы будуем сваю армію ня толькі тымі сродкамі, якія адпушчаюцца, але мы асабовым удзелам усіх працоўных усяго савецкага апарату, усёй партыі ёй дапамагаем, і дзеля гэтага мы маем цьвёрдую ўпэўненасьць, што мы такую армію збудуем. Таму гэтыя патрабаваньні штурхаюць на значна большыя асыгнаваньні, бо ў казарме павінна быць патрэбная плошча для Ленінскага кутка, для цэлай сеткі клюбаў, для гарадкоў усялякіх тыпаў, для таго, каб была магчымасьць выкоўваць нашу рабоча-сялянскую Чырвоную армію.

Затым, тэрыторыяльнае будаўніцтва. Вы ведаеце, што па абсталяваньню пунктаў дапрызыўнай падрыхтоўкі ўсё ляжыць на мясцовых сродках і зроблена шмат у гэтых адносінах, але ўсё-ж гэтыя сродкі аказаліся далёка невыстарчаючымі і мізэрнымі, і ў частых выпадках большасьць раёнаў патраціла тыя сродкі, якія былі адпушчаны акругамі на абсталяваньне і ўтрыманьне нашых пунктаў. І ў далейшым было-б пажадана, што калі будуць перавыдаткі ў некаторых раёнах, каб акругі гэтыя выдаткі пакрывалі-б з тым, каб ня было недастачы сродкаў для нашай дапрызыўнай падрыхтоўкі.

Вось тыя моманты, на якіх я хацеў спыніцца.

Старшыня: Слова мае тав. Нікалаеў.

Тав. Нікалаеў: Таварышы, я, як работнік Наркамфіну, бываў на пасяджэньнях бюджэтнай камісіі, калі зацьвярджаўся бюджэт і ведаю яго. Я застанаўлюся на бюджэце, галоўным чынам, Наркамзему, так як гэты бюджэт тычыцца нашага сельскага насельніцтва. Бюджэт Наркамфіну задаволен поўнасьцю, што мяне, як селяніна вельмі радуе. Мы ўсе ведаем і трубім аб тым, што лесу не хапае, што трэба замяніць лес торфам. А калі замяніць торфам, дык трэба, папершае, адпусьціць сродкі і, падругое, паказаць, як здабываць і ўжываць торф. Трэба пачаць гэта з устаноў, а калі паглядзім на Наркамзем альбо ЦВК, дык убачым, што як яны, так і іншыя паляць дрывамі таксама, як і сяляне.

Затым, неабходна таксама і аграномія. Хоць кажуць, што мала сродкаў адпушчаецца на спэцадзеньне і на перасуваньне, тым ня менш Наркамфін адпусьціў на аграномію 1.450.000 р., альбо на 45 проц. больш, чым у мінулым годзе.

Затым таксама неабходна зямляўпарадкваньне таму, што калі ў сялян маецца 5 дзесяцін зямлі, дык гэта зямля раскідана на 45 кускоў. На зямляўпарадкваньне і перасуваньне Наркамфін адпушчае 1.880.000 р., альбо на 69 проц. больш, чым у мінулым годзе. На вэтэрынарыю адпушчаецца 708.000 рублёў, альбо на 34 проц. больш у параўнаньні з мінулым годам.

Агульная лічба Наркамзему 12.000.000 руб. у той час, як падатку зьбіраюць 7.250.000 руб., так што сялянскай гаспадарцы зварочваецца больш, чым з яе бярэцца; гэта апрача школ, больніц, дарог і г. д.

На дарогі адпушчаецца 1.694.000 руб. Тут я хачу сказаць, што гэтымі сродкамі дарогі поўнасьцю на 100 проц. не рамантуюцца. А таму трэба сярод насельніцтва праводзіць агітацыю, каб насельніцтва дабраахвотна дапамагала сваімі сіламі, а лес і іншыя матар'ялы павінны быць закуплены на гэтыя сродкі, і на гэтыя сродкі павінны быць аплачаны спэцыялістыя.

На народную асьвету самая вялікая лічба адпускаецца—12.785 т. р., альбо на 36 проц. больш супроць мінулага году. Як вядома, справа на-

роднай асьветы самая важная таму, што калі будзе насельніцтва цёмнае, дык нічога добрага з ґэтага ня будзе. Сельскіх школ у бягучым годзе адчынена больш за 500.

На ахову здароўя адпушчана 6.407.000 руб., а ў мінулым годзе было адпушчана 4.615.000 руб., адчынена новых больніц у вёсцы пяць, лік коек—3.395,—павялічэньне ў гэтым годзе на 369 коек; з іх на вёсцы 267, іншыя—у горадзе, хоць, як мы ведаем, сяляне вельмі часта кладуцца ў горадзе.

На прамысловасьць у мінулым годзе адпушчана 3.106.000 руб., у бягучым годзе—6.899.000 руб., гэта значыць больш чымся ў два разы. Гэта на пашырэньне розных цагельняў, для вырабу бульбы, а гэта ў сваю чаргу дасьць працу беспрацоўным.

Цяпер я хачу сказаць некалькі слоў адносна сельска-гаспадарчага падатку. Я, як працаўнік у гэтай установе, скажу, што сельска-гаспадарчы падатак у бягучым годзе пабудован ня зусім так, як трэба. Тав. Дубіна, старшыня Магілеўскага Акрвыканкому, казаў аб тым, што ў нас маецца многа сялян, звольненых па мінімуму, які не абкладаецца, у той час, як гэтыя сяляне маглі-б лёгка заплаціць гэтыя тры або пяць рублёў. Гэта ёсьць усюды.

Цяпер ізноў зьвернемся да лесу. Як вядома, сяляне жывуць у драўляных хатах. У іх драўляныя хлявы. У іх няма цьвёрдага фундаманту, і будуюць хату проста на зямлі або падкладваюць бярвеньні. Што-ж мы бачым?—Праз дзесяць год гэтыя бярвеньні згніюць, і селянін зноў крычыць: давай лес.

Цяпер, аб чырвоным пеўні. Штогод, дзякуючы яму, выгараюць цэлыя раёны. Гэта каштуе шалёных грошай. Апрача таго, гарыць маемасьць і іншае сялянскае дабро. І што-ж мы бачым? Або я прагледзеў, але па каштарысу на агнятрывалае будаўніцтва нічога не адпушчана, а калі і адпушчана, дык гэта—кропля ў моры, у той час як трэба-б адпусьціць большыя сродкі, каб на гэтыя грошы дасьледаваць у Беларусі нашы горныя багацьці, каб гэтыя матар'ялы пусьціць таньней і прасунуць у вёску па сабекошту, каб у нас былі агнятрывалыя будоўлі. А то, калі мы гэтага ня зробім, дык колькі стражы ня стаўце, усёроўна лес будуць красьці. Цяпер маецца 1.000 пратаколаў на самавольных парубшчыкаў. Іх будуць дзесяткі тысяч, калі мы ня прымем агнятрывалага будаўніцтва, з тэй прычыны, што стражніка ўначы ў лес і пірагом не завабіш, і ўначы селянін у лесе гаспадар, а раніцою стражнік ідзе па дварох і шукае, знойдзе палена, а да гэтага прыдрацца нельга, калі-ж знойдзе пень, то складае пратакол. У лес ідзе хто? Ідуць усе беднякі, серадзякі, кулакі. Серадзякі і кулакі яшчэ баяцца, бо ў іх яшчэ могуць узяць за рогі карову і павесьці ў лес, а ў бедняка хоць складайце пратаколаў колькі хочаце, усё роўна нічога ня возьмеце. А торф селянін ня ведае, дзе капаць, ды ён не гарыць.

Цяпер наконт чарапічных таварыстваў. Ёсьць шмат раёнаў, якія з вялікім задаволеньнем арганізавалі-б гэтыя таварыствы, але няма чарапічных варштатаў. У нас ёсьць цэментна-бэтонныя таварыствы. Калі мы іх арганізоўвалі, мы адзін варштат атрымалі з Бабруйску, яшчэ недзе валяўся варштат, і такім чынам мы атрымалі магчымасьць працаваць. Нам трэба было-б падумаць аб вырабе варштатаў. У нас ёсьць такія заводы, як «Энэргія» і інш. Гэту працу можна будзе наладзіць толькі тады, калі ў нас будуць варштаты. Калі на мінулай Сэсіі паказвалі, як вырабляюць чарапіцы, дык мы ўсе зразумелі, што гэта зусім пустая справа, і яны каштуюць значна таней і вельмі трывалыя.

Далей перайду да Наркамфіну. Я, як працаўнік Наркамфіну, стану на яго бок. Таварышы, якія тут выступалі, гаварылі, што НКФ толькі

і робіць што ўрэзвае. Што-ж прадстаўляе з сябе НКФін? НКФін, як вядома, вядзе падлік усім прыбыткам, якія мы атрымоўваем у Беларусі, а таксама і выдаткаў. Сваіх сродкаў НКФін ня мае ды і варштату, на якім друкуюць грошы, таксама ня мае. Тут гавораць, што калі вучань ня мае алоўка, вінават НКФін, лясьнікам ня выдалі ботаў,—таксама вінават НКФін, каморнікам таксама патрэбны боты, бо яны гразнуць у балоце. Нашы сяляне косяць сена на балоце бяз усякае спэцвопраткі, іх спэцвопраткай зьяўляюцца лапці. Наогул, усе вінавацяць НКФін. Усім нам вядома, што нашы падаткі складаюць ня больш, ня менш, як 43.000.000 руб. Такім чынам, гэтыя 43.000.000 руб. трэба разьмеркаваць больш-менш правільна. Калі аднаму даць усё патрэбнае, дык ня хопіць другому. А ўсе крычаць, што НКФін не дае досыць сродкаў, а ён-жа ня можа з сваёй кішэні даць. Трэба толькі наглядаць за тым, каб усе сродкі былі правільна разьмеркаваны.

Старшыня: Слова мае т. Сіманаў.

Тав. Сіманаў: І так, таварышы, я ня зьбіраюся вынайсьці новай Амэрыкі. Я хачу спыніцца на той частцы спрэчак, у якіх выказваліся самі сяляне. Тав. Тамашэўскі сказаў, што наш бюджэт прысьвечан, быццам, выключна прамысловасьці, а я-б сказаў дзядзьку Тамашэўскаму—новаму беларусу, нядаўна да нас далучанаму (Голас з месца: Ён ужо даўно беларус), што наша сельская гаспадарка ні ў якім выпадку ня можа хутка падымацца без дапамогі нашай прамысловасьці. Мы добра ведаем, што наша прамысловасьць павінна даць сялянам машыны, каб ім ня прышлося, як і нашым дзядом, карыстацца хваёвымі вяршынамі. Падругое, пры разьвіцьці вытворчасьці можна будзе патаніць продукцыю, неабходную нашым сялянам. Я, таварышы, павінен сказаць, што бюджэт наш мае вялікі рост, і нашы сродкі накіраваны, па маёй думцы, у той бок, у які і трэба ў бліжэйшы час іх накіроўваць. Другое, таварышы, калі мы возьмем тыя хворыя бакі, аб якіх тут гаварылі, то трэба адзначыць, што як мы ў гэтым годзе ні стараліся павялічыць прыбытковую частку свайго бюджэту, як мы ні стараліся павялічыць сельска-гаспадарчы падатак, ён не займае належнага месца. Гэта адбылося з тэй прычыны, што ня было патрэбнага кіраўніцтва тымі органамі, якія вялі гэтую работу. Тут ужо было выяўлена, што кулацкія элемэнты і серадзнякі вызвалены амаль на 80 проц. параўнаўча з падаткамі мінулага году. Бываюць выпадкі, што дзядзька, які мае 16 дзесяцін зямлі і 2 душы сям'і пры 3-х конях, плаціць падатку якіх-небудзь 17 руб., а селянін-бядняк, які мае 5 ці 6 дзес., плаціць 9 р. Вось серадзнякі і сьмяюцца над беднякамі, гавораць «вось як да вас адносіцца Савецкая ўлада». Ёсьць сяляне адзіночкі, якія маюць 4-5 дзес., і такім сялянам, бываюць выпадкі, прыходзіцца плаціць 30 р. сельска-гаспадарчага падатку. Вось як у нас стаіць справа з падаткамі ў гэтым годзе. Мы на ІІІ-й Сэсіі гаварылі аб незямляробскіх прыбытках. Мы гаварылі, што да гэтых прыбыткаў трэба падыходзіць асьцярожна. Праўда, у некаторых адносінах мы тут маем дасягненьні. Але калі мы паглядзімо, што робіцца з тымі арандатарамі, якія аддалі свае памяшканьні спажывецкай коопэрацыі, сельска-гаспадарчым пазычковым таварыствам і іншым коопэрацыйным організацыям, дык атрымаецца такі малюнак: дзядзька, які аддаў у арэнду сваё памяшканьне пад коопэратыў, атрымоўвае прыблізна 100—140 р., ён абкладаецца як селянін, які мае незямляробскія заработкі. Яму прыходзіцца плаціць рублёў 54 падатку. Дзядзька гэты дробны серадняк, і ён гаворыць: «Забірайце вашы тавары і вызвальце мне краму, во вы са сваёй коопэрацыяй толькі зьбіваеце нас з панталыку». Мне здаецца, што калі мы дапусьцілі

такую справу, то трэба сказаць, што гэта і ня вельмі вялікая сума, але ўсё-такі сельгаспадатак гэты цалкам, мне здаецца, не паступіць.

Цяпер я хачу некалькі слоў сказаць адносна лясоў і іх долі ў нашым бюджэце. Мы ведаем, што калі ўся прыбытковая частка дзяржаўнага бюджэту складае 47.000.000, дык у гэтым прыбытку лясы займаюць больш як 40 проц., ці 21 мільён. Але трэба сказаць, што мы ня зможам штогодна даіць так нашу кароўку—лес. Трэба сваячасова падумаць, за лік чаго мы ў далейшыя гады будзем мець рост нашага бюджэту?

Тут паўстае пытаньне аб тым, колькі сялянам даюць дроў і хто ад гэтага выйграе—сяляне ці ўрад? Ясна, што калі мы на кожную сялянскую гаспадарку даём толькі адзін куб. мэтр дроў, дык ад гэтага прайграе дзяржава. Селянін гаворыць: «толькі-б мне быў білет, а я ўсё роўна пайду ў лес і насяку дроў, а грошай, якія я павінен быў-бы заплаціць за дровы, я лепш прап'ю». Тут гаварылі аб тым, што ў некаторых раёнах ёсьць вялікія сумы, якія накладзены на сялянства за высечаны лес. Я вс[illegible]х раёнах.

Цяпер адносна народнай асьветы некалькі слоў. Мы ведаем, што ў сельскіх мясцовасьцях, за выключэньнем раёнаў, амаль заўсёды існуюць аднакомплектныя школы. Хто ў іх вучыцца? Галоўным чынам, бедната. Але вось, канчае сын бедняка гэтую школу, а далей ён ні ў якім выпадку ня можа ісьці і працягваць сваю адукацыю. Між тым, сярод іх пападаюцца вельмі добрыя і здольныя дзеці. Калі скончыць гэтую школу сын кулака ці серадняка, дык ён мае магчымасьць устроіцца ў раёне, заплаціць за кватэру і вучыцца далей, а бядняк—хоць лопні, гэтага зрабіць ня можа. Вось чаму я лічу, што ўсё-такі ў наступным годзе, калі будзе магчымасьць, трэба прадугледзець некалькі стыпэндый для нашых 7-годак, з тэй мэтаю, каб даць магчымасьць сялянскай беднаце пасьля 7-годкі вучыць сваіх дзяцей далей.

Тут былі гутаркі, што вось нашы сяляне лес, што ім адпушчаецца, выкарыстоўваюць на хату ці на хлеў для жывёлы так дрэнна, што воўк можа залезьці і выцягнуць авечку, а гаспадар і ня ўбачыць. Гэта праўда, Наркамасьветы павінен патурбавацца і падумаць над пытаньнем аб тым, каб разьвіць у нас сельска-гаспадарчыя школы з рамесьніцкім ухілам. Вось 5-ці гадовы плян Наркамзему прадбачыць шмат усяго, каб палепшыць нашу савецкую гаспадарку, але для ажыцьцяўленьня гэтых мерапрыемстваў нам патрэбны адпаведныя людзі, якія-б здолелі паказаць нашаму селяніну, хоць-бы як трэба пабудаваць хлеў, каб воўк ня мог залезьці, як трэба зрабіць кармушку, як наладзіць спружыновую барану альбо плуг. Нашыя саматужнікі на вёсцы пакуль яшчэ ня вельмі ідуць на спатканьне ў гэтых адносінах. Далей, тут многія таварышы ўвесь час гавораць, што бюджэт наш нібы расьце, а ўсё-ж сродкаў не хапае для задаваленьня ўсіх нашых патрэбнасьцяй. Я-б сказаў такім парадкам, што мы, зразумела, ад гэтых сродкаў павінны вымагаць на павялічэньне выдаткаў, але больш увагі аддаваць таму, як выкарыстоўваюцца і ці сваечасова і рацыянальна трацяцца нашыя сродкі. Калі мне прышлося быць нядаўна на перавыбарах сельсаветаў, дык я бачыў, што бюджэт наш сваечасова прадбачыў сродкі на дастаўку дроў для школ і больніц, а між тым школа зачынена, а на мэдыцынскім пункце, з прычыны таго, што там не апальвалася, усе пляшкі з мэдыкамэнтамі патрэскаліся. Гэта ўсё таму, што ў нас няма гаспадара, няма гаспадарскага вока, які сваечасова прасачыў за тым, каб школа і больніца былі ў свой час забясьпечаны дрывамі. Дзеля гэтага мы ня толькі павінны вымагаць сродкаў, але і павінны сачыць за тым, каб кожная наша капейка была сваечасова і рацыянальна выкарыстана,

каб нашы дзеці не сядзелі дома і каб сялянства не гаварыла, што вось, улада не надае гэтаму ўвагі і сродкаў на апал школы не адпускае. У нас сродкі на гэта даюцца, і трэба браць кірунак на тое, каб за год уперад загатаваць для школ і больніц дровы. Гэтым самым мы паказалі-б сялянам, што мы добрыя гаспадары, добра і ўмела працуем, і тады сялянства ня тыкала-б і не гаварыла, што вось у стары час дровы загатаўляліся кожны год уперад, а цяпер, калі прыходзяць у школу, дык там прыходзіцца сядзець ў кажусе, а ад гэтага разводзяцца вошы і потым разносіцца зараза па хатах. Зразумела, што такое палажэньне стварае не асабліва прыхільныя настроі. Цяпер, калі ўзяць дарожнае будаўніцтва, мы ўбачым, што за будаўніцтвам шляхавых мастоў няма зусім ніякага нагляду. Вось я сам бачыў, як 2-3 гады таму назад пабудавалі новыя мосьцікі, але пабудавалі іх так няўдала, што цераз нейкі час яны правальваюцца і прыходзіцца зноў будаваць нанова. І такім парадкам, сродкі на пабудову гэтых мастоў патрабуюцца ў нас амаль ня кожны год.

Старшыня: Слова мае т. Марыненка.

Тав. Марыненка: Тут ужо два таварышы выступалі, з іх адна т. Анішчанка, і гаварылі аб дрывах і паказвалі на Марыненка, а я зусім яшчэ не выступала. Дык я тэта хачу сказаць загадзя.

Вось, таварышы, усе мы гаварылі аб сельгаспадатку, і т. Васілевіч рабіў аб гэтым даклад. Чым-жа ён няправільна зрабіў? Я заўважваю, што ён усё-ж такі правільна сказаў. Вось у нас у мінулым годзе было 40 проц. скідкі, а ў гэтым годзе блізка 50 проц., і мы бачым, што скідка правільная, дапамога ёсьць, толькі ў нас няправільна яшчэ на мясцох праводзіцца гэтая справа. А там, дзе праведзена гэтая лінія правільна, там добра. У некаторых раёнах гэта праведзена правільна.

Вось, таварышы, нам трэба будзе ў будучым годзе што-небудзь зрабіць, каб грамадзянін ня крыўдзіўся, што вось у такім-то раёне падатак меншы, а ў другім большы і г. д.

У нас ёсьць акруга, па суседзтву з Магілевам. Мне прыходзілася гутарыць з некаторымі грамадзянамі, і яны таксама заўважваюць, што ў некаторых раёнах скаціна пахавана,—гэта ў Калінінскай акрузе, а ў нашым раёне ўсё, кажуць, выяўлена. Трэба будзе ўгледзецца ў акругі, трэба, каб Менск глядзеў за тым, каб правільна праводзілі вылічэньне праектаў абкладаньня. Прыяжджаеш у вёску. Што кажа вёска? Вёска кажа,—правільна ўлічалі об'екты абкладаньня, толькі адно няправільна, што паставілі ў такім-то сельсавеце зямлю няпахатную ў пахатную, а ў такім-то сельсавеце пастанавілі за зямлю гэтую плаціць. Гэта крыўдна.

Уся справа ў тым, што зямля не абмерана. Калі-б зямля была абмерана, гэтыя недахваты былі-б адхілены.

Старшыня: Слова мае т. Кандраль.

Тав. Кандраль: Таварышы, тое, што сёньня гавораць, пацьвярджае, што праца ў гэтым годзе па складаньні бюджэту праведзена значна лепш, чым яна была праведзена ў мінулыя гады. Але, разам з тым, трэба зазначыць, што і сёньня мы маем у гэтай нашай працы вялікія недахваты. Гэтымі недахватамі, памойму, трэба лічыць тое, што мы на працягу цэлага году займаліся складаньнем каштарысу. Калі падлічыць па кожнай акрузе, колькі пашло паперы, колькі патрэбна было часу для гэтага, дык гэта будзе складаць большую частку тых самых сродкаў, якія прадугледжаны нашым бюджэтам. І гэта асабліва адбіваецца на сродках тых акруг, якія зьяўляюцца дэфіцытнымі, да якіх можна залічыць Калінінскую акругу. Нам прыдзецца на працягу бліжэйшага часу разы тры перапісваць бюджэт, таму што ўсе лічбы, якія мы маем к сёнешняму дню, яшчэ не канчатковы. Субвэнцыя, якая

была прадугледжана, будзе скарочана, і дзеля гэтага прыдзецца перабудоўваць каштарысы ў акругах. Гэта,—з аднаго боку, а з другога боку мы на сёнешні дзень, ня гледзячы на тое, што амаль 5 месяцаў жывем усе па новым каштарысе, ня маем сталага каляндарнага пляну як у прыбытковай, гэтак і ў выдатковай частцы нашага бюджэту. Праўда, некаторыя акругі склалі, але рэспубліканскага каляндарнага пляну няма. І гэтая адсутнасьць каляндарнага пляну цяжка адбіваецца на працы асабліва такіх акруг, якія зьяўляюцца дэфіцытнымі. Вынікам гэтага зьяўляецца тое, што калі мы пры складаньні каляндарнага пляну па Калінінскай акрузе прымалі пад увагу нашу беднасьць і тое, што ў першым квартале асабліва будзе цяжка з атрыманьнем сродкаў,—мы склалі самыя мінімальныя пляны. Ня гледзячы на гэта, мы гэтыя пляны ў выдатковай частцы выканалі толькі на 60 проц. па раёну. Па цэламу шэрагу раёнаў мы выплачвалі зарплату праз поўмесяца. Ня прыходзіцца казаць ужо аб гаспадарчых выдатках. Калі-б мы мелі магчымасьць патраціць некаторыя сродкі на загатоўку апалу і фуражу, дык гэта дало-б вялікую экономію.

Я лічу, што ў самым бліжэйшым часе гэты рэспубліканскі плян павінен быць вырашаны, і гэтая дапамога дэфіцытным акругам будзе больш плянавай і ня будзе адбівацца на працы месц.

Далей, мне здаецца няправільна тое, што мы ня далі нормальнага росту дэфіцытным акругам. Для прыкладу я прывяду Калінінскую акругу. Калі ў мінулым годзе адносная вага каштарысу Калінінскай акругі ў стасунку да бюджэту ўсёй рэспублікі была 8 проц., дык у гэтым годзе, ня гледзячы на тое, што мы маем цэлы шэраг новых выдаткаў, уключаных у наш каштарыс рэспубліканскім бюджэтам, адносная вага нашага каштарысу займае толькі $7\frac{1}{2}$ проц., г. зн. на поўпроцанта меней. Мне здаецца, што неабходна было зьмяніць падыход, трэба было-б на год або на два даць большую суму для таго, каб у бліжэйшы час зьніштожыць дэфіцытнасьць.

Цяпер закрану экономію. Як мы павінны праводзіць экономію пры выкананьні нашых заданьняў. Мне здаецца, што тую экономію, якую праводзіць цяпер Наркамасьветы ці Наркампрацы, ня трэба нам праводзіць у далейшым. Калі Наркампрацы зьбярог 70.000 р. даных на ліквідацыю беспрацоўя, у мінулым годзе, дык гэта вельмі дрэнна. Дрэнна таксама, калі Наркамасьветы знаходзіць патрэбным зьберагаць сродкі на сельска-гаспадарчых і лясных школах. Калі ў мінулым годзе сельска-гаспадарчыя і лясныя школы патрацілі на розныя гаспадарчыя выдаткі 4.100 руб., дык у гэтым годзе адпушчана па бюджэце на гэтыя школы толькі 3.000 руб. У выніку гэтага мы маем тую акалічнасьць, што гэтыя школы сядзяць без апалу. Пасьля, на розныя падарожныя выдаткі, заместа 75 р., у гэтым годзе даецца 150 р., тымчасам калі загадчыку гэтымі школамі прыходзіцца вельмі часта звярачацца ў акругу толькі за атрыманьнем гэтых сродкаў і за атрыманьнем зарплаты. А калі гаварыць аб розных выдатках, аб выдатках на некаторы рамонт, аб выдатках на ўтрыманьне тых гаспадарак, якія маюцца пры сельска-гаспадарчых і лясных школах, дык тут зусім ня прыходзіцца гаварыць, таму што ні аднэй капейкі не адпушчана на іх па бюджэце. Вынікам гэтага зьяўляецца тое, што нам прыдзецца ў бліжэйшы час гэтыя школы зусім ліквідаваць. Вось чаму шкода тых сродкаў, якія трацім мы цяпер на ўтрыманьне загадчыкаў гэтымі школамі, бо карысьці ад гэтых школ мы ніякай ня маем.

Далей, мне хацелася-б тут пагаварыць адносна тых гутарак, якія вядуцца на працягу поўгода аб тым, каб ліквідаваць дэфіцытную Калінінскую акругу. Мне здаецца, што гэтыя гутаркі пакуль што даюць

толькі адмоўныя бакі. Дзякуючы гэтым гутаркам, па Калінінскай акрузе прыходзіцца амаль поўгода весьці размовы з усякімі спэцыялістымі, якія хочуць уцякаць з Калінінскай акругі. Яны ставяць пытаньне перад Акрвыканкомам: дзеля чаго ім сядзець у Калінінскай акрузе, калі гэтая акруга будзе ўсё роўна ліквідавана. І ў выніку атрымалася тое, што калі раней спэцыялістыя згаджаліся працаваць на пэнсыі ў 125 руб., дык цяпер інжынэр атрымоўвае па 200 р.,—і гэта толькі дзякуючы гутаркам.

Мы пабудавалі наш каштарыс маючы на відоку сваю дэфіцытнасьць. Усялякім спосабам імкнуліся зьменшыць выдаткі на адміністрацыйны апарат. Намі было абгаворана такое пытаньне, як скарачэньне раёнаў з 10 да 7, г. зн. скарачэньне на 3 раёны. Мы маем, прыблізна, на гэтым больш 10.000 руб. эканоміі. Лічачы, што абслугоўваньне насельніцтва таксама ня будзе больш слабым, чым цяпер гэта ёсьць, мы лічылі магчымым за кошт ліквідацыі трох раёнаў узмацніць і іншыя раёны і такім чынам падрыхтаваць для такой рэорганізацыі, якая ў будучыне павінна быць у сувязі са скарачэньнем нашых выдаткаў. Але наш плян, калі мы прадставілі яго ў Наркамзем, не прайшоў; канчаткова было сказана ня рыпацца, бо гэтай справай на працягу бліжэйшых некалькіх год мы не павінны займацца. Мне думаецца, што Сэсіі ЦВК ня трэба гэтымі гутаркамі займацца, бо гэта вельмі цяжка адбіваецца на нашай працы. Але мне здавалася-б, што трэба заняцца адшуканьнем мерапрыемстваў, каб зрабіць больш танным наш апарат—больш яго рацыяналізаваць, адшукаць лепшыя мэтоды працы і г. д., а не займацца гутаркамі, якія нічога не даюць.

Некалькі слоў аб становішчы нашага нізавога апарату, асабліва райвыканкомаў. Я ня ведаю, як у іншых акругах, але ў нас тутака вельмі кепска стаіць справа, бо мы на тыя мізэрныя сумы, якія вызначаны каштарысам, ня маем магчымасьці падабраць больш-менш добрых працаўнікоў. У нас наглядаецца такая зьява: той ці іншы дзелавод, папрацаваўшы некалькі месяцаў, імкнецца потым пайсьці ў іншую ўстанову, бо заработная плата яго вельмі нізкая. Апрача таго, беднасьць у гэтым раёне, дзе часам няма кватэр, прымушае яго рабіць гэта; і мне думаецца, пры складаньні бюджэту ў будучым годзе трэба на гэта зьвярнуць увагу. Можа быць мы патрапім падабраць лепшы склад і ўзмацніць апарат нашых выканаўчых камітэтаў.

Потым, мне думаецца, што складаньне бюджэтаў вясковых і местачковых ніякіх вынікаў не дае. Мы гарадзілі плот, гэты плот загарадзілі і пакінулі без гаспадара, бо ён не дае ніякай карысьці. У нас маюцца каштарысы, але практычна ў жыцьцё яны не праводзяцца. Мне думаецца, што тутака трэба нешта зрабіць. Мы пры пабудаваньні бюджэту зрабілі памылку, калі выключылі выдатак па цэлым шэрагу акруг на ўтрыманьне спэцыялістых—культур-тэхнікаў і па ахове лясоў мясцовага значэньня. Калі мы зварачаем увагу на дзяржаўныя лясы, дык мне мысьліцца, што мы павінны зварачаць увагу і на лясы мясцовага значэньня, якія і па сёнашні дзень бязьлітасна высякаюцца, і ўтрыманьне аднаго работніка, які мог-бы дапамагчы на месцы, дало-б больш карысьці, чым эканомія, што атрымоўваецца ад яго няўтрыманьня.

Што датычыць работнікаў культур-тэхнікаў, якія выключаны па ўсіх акругах, дык я лічу, што, мабыць, у гэтым годзе мы прымушаны будзем шукаць другія крыніцы. Праўда, у нас засталіся невялікія сродкі, але пакінуць у такім становішчы гэтую справу, калі на сёнешні дзень мы маем па акругах 50 мэліорацыйных таварыстваў, і на гэтыя мэліо-

рацыйныя таварыствы па дзяржаўным бюджэце не прадугледжана ані-воднага культур-тэхніка, мне здаецца ні ў якім выпадку нельга. Усё такі трэба будзе нам для абслугоўваньня гэтых таварystваў мець хоць-бы 2-3 тэхнікі, такім чынам, прыдзецца разьвітацца з гэтым рэзэрвным фондам, які павінен быў пайсьці на другія непрадбачаныя патрэбы, якія на працягу году могуць выявіцца.

Тав. Чарвякоў: Па рэгляманту час зышоў. Я думаю, што мы заўтра будзем працягваць нашы спрэчкі па гэтым пытаньні, бо яно вельмі важнае. Запісаных яшчэ многа, і Прэзыдыум лічыць, што трэба даць усім выказацца. Заўтра пасяджэньне роўна а 10 гадзіне, а цяпер зачыняецца.

(Пасяджэньне зачынена а 9 гадзіне).



